МІХАСЬ ЧАРОТ

# ВЫБРАНАЕ

Мінск
«Юнацтва»
1982

# ПЯСНЯР КАСТРЫЧНІКА

Міхась Чарот — адзін з буйнейшых пісьменнікаў — пачынальнікаў беларускай савецкай літаратуры. Яго жыццёвы і творчы шлях у многім тыповы для таго пакалення літаратараў, якія прыйшлі ў літаратуру адразу пасля Вялікага Кастрычніка — з франтоў грамадзянскай вайны, з партызанскіх атрадаў, з падпольнай работы, адтуль, дзе бушавала полымя непрымірымага класавага змагання, якое ахапіла тады ўсю краіну. Малады паэт смела выступіў на баку абуджаных рэвалюцыяй сацыяльных нізоў, звязаўшы свой лёс з народам і Камуністычнай партыяй.

Міхась Чарот — псеўданім паэта, сапраўднае яго прозвішча — Міхась Сямёнавіч Кудзелька. Нарадзіўся ён у сям'і селяніна-бедняка 7 лістапада 1896 года ў вёсцы Рудзенск (цяпер гарадскі пасёлак Пухавіцкага раёна Мінскай вобласці). Пра сваё дзяцінства ён потым раскажа ў паэме «Беларусь лапцюжная»:

Як радзіўся, дык мне напісалі:
Жыць на вёсцы і быць пастухом,
Вандраваці са статкам лясамі,
Баяць байкі балотам ды мхом.

Цяжкі быў хлеб пастушка-падлетка, які «працаваць пачаў з малых дзён», але дзяцінства яго праходзіла на ўлонні цудоўнай беларускай прыроды, сярод народных легенд, паданняў і песень. «Надзвычайна падабалася ездзіць на начлег і цэлую ноч праводзіць з хлопцамі каля вогнішча і слухаць казкі і апавяданні... (з «Аўтабіяграфіі»).

Пачатковую адукацыю Міхась Чарот атрымаў амаль у такога ж «дарэктара», які апісаны ў паэме Я. Коласа «Новая зямля». Затым вучыўся ў двухкласнай школе. У 1914 годзе паступіў у настаўніцкую семінарыю. Гады навучання ў семінарыі пашырылі яго светапогляд, раскрылі вочы на сацыяльную няроўнасць у тагачасным грамадстве, садзейнічалі ўмацаванню дэмакратычных пазіцый.

Ішоў 1917 год. У самым яго пачатку М. Чарот заканчвае настаўніцкую семінарыю і аказваецца ў самым віры рэвалюцыйных падзей, прымае ў іх удзел. Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя ўскалыхнула ўсе сферы жыцця беларускага народа, які шырока ўзняўся да рэвалюцыйнай творчасці.

У 1917 годзе М. Чарот пісаў:

Толькі меч і агонь
Змогуць долю каваць,
Адалеюць няволю без страху!
Дзе ты, вецер — мой конь?
Дзе цябе адшукаць?
Я паеду па новаму шляху.

На рэвалюцыйнай хвалі барацьбы новага са старым узнімалася яго паэзія. Ён прыйшоў у літаратуру з грамадзянскай вайны. Цікава расказвае пра гэта Я. Рамановіч:

«Па распараджэнні Рудзенскага рэўкома Кудзелька застаецца ў тыле нямецкіх войск з заданнем уключыцца ў арганізацыю народнага супраціўлення захопнікам. Запявалу лясных братоў-партызан і баявога разведчыка Міхася Кудзельку пачалі шукаць нямецкія і белапольскія акупанты.

Прыхапіўшы з сабою наган, Кудзелька ідзе ў Мінск, у бальшавіцкае падполле.

— Іду ў заўтра! — гаворыць ён»[1].

У 1920 годзе М. Чарот становіцца членам Камуністычнай партыі. «Той Чарот,— піша Н. Гілевіч,— якім ён увайшоў у нашу свядомасць,— палымяны пясняр кастрычніцкай «завірухі», «мяцежны бунтар», бясстрашны ўдзельнік «сонечнага паходу»,— пачаўся ў 1920 годзе» [2].

Жыццё ў першыя паслярэвалюцыйныя гады было надзвычай складанае і супярэчлівае. Палітычны і духоўны ўздым народных мас натыкаўся на вострае супраціўленне капіталістычных элементаў, якія яшчэ мелі некаторую перавагу ў эканоміцы. Рэчаіснасць абнаўлялася бурліва, энергічна, усё больш прыкоўваючы да сябе ўвагу літаратараў.

Творчасць М. Чарота наскрозь прасякнута тэмай рэвалюцыйнага пераўтварэння жыцця, страснага сцвярджэння ідэй Кастрычніка, «чырвонагвардзейскай атакі на капітал».

Трымай жа моцна, родны брат,
свой сцяг забытай волі,—

звяртаецца ён да «аратага», выкарыстоўваючы энергію аратарскіх, лозунгавых заклікаў.

М. Чарот па-новаму падышоў да рэвалюцыйнай тэмы. Яна атрымала ў яго сацыяльна-класавую, палітычную акрэсленасць. Паэт услаўляе непарушны саюз рабочага класа і сялянства, якія могуць ажыццявіць свае адвечныя спадзяванні толькі разам, агульнымі сіламі:

Селянін і рабочы — удвух
Стары свет агнём паляць, руйнуюць
І на вогнішчы новы будуюць,
Панаваць у якім будзе молат і плуг.

Пазней у «Аўтабіяграфіі» ён напіша: «Лічу, што стала заняўся літаратурнай працай з часу запанавання на Беларусі Савецкай улады».

---

[1] Рамановіч Я. Знаёмыя сілуэты.— Мн., 1974, с. 35.
[2] Гілевіч Н. С. Акрыленыя рэвалюцыяй.— Мн., 1962, с. 48.

На пачатку 20-х гадоў прыток маладых у літаратуру быў сапраўды незвычайны! У мастацтва і культуру пераліваліся творчыя сілы народа.

К. Крапіва, У. Дубоўка, А. Александровіч, М. Грамыка, А. Дудар, Я. Пушча, потым, па меры ўступлення ў літаратуру, да іх далучаюцца П. Трус, У. Хадыка, П. Глебка, П. Броўка, М. Лужанін, М. Багун, Ю. Лявонны, В. Вітка, А. Вольны, С. Дарожны, З. Астапенка, Ю. Таўбін, А. Куляшоў, А. Звонак, М. Хведаровіч, Т. Кляшторны. Якая плеяда маладых талентаў, добрых і розных, часта з сур'ёзнай жыццёвай школай, з вялікім жаданнем змагацца за рэвалюцыйныя ідэі, прыгажосць якіх адчувалі ўсім сэрцам! Наспела думка аб утварэнні ў Беларусі літаратурнай арганізацыі. Адным з яе галоўных ініцыятараў-заснавальнікаў выступіў Міхась Чарот. Так, у 1923 годзе ўзнік «Маладняк» — масавая літаратурная арганізацыя, якая мела свае «філіі» ў многіх гарадах рэспублікі і нават за яе межамі. М. Чарот, паводле слоў беларускага літаратуразнаўца У. Калесніка, з'яўляецца «духоўным бацькам «Маладняка», літаратурнай арганізацыі, якая адыграла выдатную ролю на першай стадыі фарміравання беларускай літаратуры. «Акрыленыя рэвалюцыяй», маладнякоўцы адчулі сябе гаспадарамі і будаўнікамі новага свету.

Першая кніга вершаў М. Чарота «Завіруха» выйшла ў 1922 годзе. Тады ж убачылі свет зборнікі З. Бядулі «Пад родным небам», Ц. Гартнага «Песні працы і змагання», Я. Коласа «Водгулле», Я. Купалы «Спадчына» і інш. Чаротаўская кніга ў агульных абрысах праўдзіва адлюстравала духоўны свет чалавека, які свядома ўключыўся ў будаўніцтва новага жыцця. Таму яна застаецца выдатным мастацкім дакументам і сведчаннем той незабыўнай пары.

Бура, навальніца, пажар, завіруха, звон, меч і агонь, што крышаць стары свет,— гэта вобразнасць і сімволіка выяўлялі рэвалюцыйны змест кнігі «Завіруха» і ўсёй паэзіі М. Чарота.

«У творах сваіх ніколі не сумую»,— гаварыў пра сябе паэт. І гэта было відаць ужо ў першай кнізе.

Я шумлівы чарот, я мяцежны бунтар.
Я балота буджу гучным шумам,—

пісаў ён у вершы «Бунтар», насычаным вельмі празрыстай сімволікай.

Гэта быў паэт-аптыміст.

Гэй, пясняр малады, не вучыся спяваць
новай песні на сумны той лад,—

заклікаў ён сваіх маладых калег. Чаротаўская «Завіруха» скіравана ў заўтрашні дзень. «Я іду ў заўтра, а заўтра — гэта Вялікая будучыня»,— заяўляе паэт у прадмове да першай сваёй кнігі.

Тэма рэвалюцыі і будучыні ў цэнтры паэмы «Босыя на вогнішчы», якая была напісана ў 1921 годзе, а асобнай кнігай выйшла ў 1922 годзе, адначасова з «Завірухай». Гэта — расказ аб народзе і рэвалюцыі. Кастрычнік асэнсоўваецца ў паэме як магутны выбух энергіі сацыяльных нізоў, разняволеных сіл беларускага народу, як стыхія народнага гнева. М. Чарот развіваў

купалаўскія традыцыі стварэння маштабнага вобраза. Усе мы памятаем верш Я. Купалы «А хто там ідзе?», у якім з вялікай сілай мастацкай пераканальнасці сцвярджаецца вера ў народ, дзейсная сіла грамады:

А хто там ідзе,
А хто там ідзе
У агромністай такой грамадзе?
Беларусы.

Вобраз народа, грамады знайшоў развіццё (хаця і з некаторым перабольшаннем стыхійнага элементу) у паэме М. Чарота «Босыя на вогнішчы».

Яны — байцы вялікай раці.
Іх хата там, дзе ёсць прастор.
Нявоня, крыўда — вось іх маці!
Ідуць яны да сонца й зор.

Як і рускі паэт А. Блок, Чарот пачуў «музыку рэвалюцыі». «Босыя на вогнішчы» былі спробай беларускага паэта перадаць шматстайнасць уражанняў, якія захапілі яго ў гэтым грозным шквале рэвалюцыйнага пажару. Ён супрацьстаўляе дзве сацыяльныя сілы, дзве культуры і псіхалогіі. З аднаго боку «босыя»: рабочыя і сяляне — вялікая армія людзей працы, якія ўзняліся да рэвалюцыйнай свядомасці і адкрыта ідуць на штурм старога ладу, маючы на мэце пабудаваць новы свет, «вялікай будучыні дзень». Другая сіла — клас эксплуатататараў: паны з падпанкамі, афіцэры царскай арміі, чыноўнікі, папы, войскі інтэрвентаў, якія супрацьстаяць «босым».

Паэт не толькі бачыць гістарычную апраўданасць рэвалюцыі, але і яе непазбежнасць. Ён прымае як праўду, вышэйшую справядлівасць і маральную правату «босых». Чарот не пабаяўся паказаць рэвалюцыю жорсткай і крывавай: надта ж цяжка пакутаваў народ, спяліў свой гнеў да бесчалавечных парадкаў старога ладу. І вось ён з песняй «Паўстань, хто з голаду век пух!..» узняўся на рашучы бой.

Паэме ўласціва так званая «карнавалізацыя» масы. Вобразы-сімвалы, шырокія абагульненні, што плывуць магутнай ракой разняволеных рытмаў, суседнічаюць з каларытнымі, выхапленымі з жыцця дэталямі і сітуацыямі, якія жыва перадаюць незабыўны каларыт той пары.

Твор успрымаўся на той час, ды і сёння, як узор новага мастацтва. Тады, адразу ж пасля рэвалюцыі, праблема новага мастацтва стаяла вельмі востра. Крытыка гаварыла пра неабходнасць «разбудзіць запляснелую беларускую літаратуру і ціхі Мінск шумам пераменлівых рытмаў сучаснага вялікага горада і яго барацьбы, зламаць старую паэтыку, якая зусім непрыдатна для нашага часу» [1]. Новая эпоха запатрабавала новых сродкаў мастацкага выяўлення, разлічаных на «мільённы маштаб абагульнення». Суадносіны індывідуальнага і масавага — складанае пытанне літаратуры і мастацтва 20-х гадоў. У творчасці многіх паэтаў, празаікаў жыццё асабістае, прыватнае аказалася паглынутым

[1] Кнорын В. Мертвый хватает живого.— Звезда, 1922, 17 верасня.

жыццём грамадскім, індывідуальнае саступала месца калектыўна-масаваму. Нельга сказаць, што беларуская літаратура першага паслякастрычніцкага дзесяцігоддзя не заўважыла новыя рысы характару савецкага чалавека, але ўсё ж такі агульнае, тыповае, масавае ў яе эстэтычных уяўленнях пераважала. Сацыялізм зняў канфлікт паміж асобай і грамадствам, чалавекам і дзяржавай, аднак знікненне антаганістычных супярэчнасцей паміж імі, утварэнне новага, гарманічнага адзінства не ўсімі разумелася правільна. Многія літаратары непакоіліся тым, каб прыватнае не паглынула агульнага, каб асоба не засланіла калектыў. Трэба, лічылі яны, імкнуцца да безымяннасці, да «калектывізму». Вядомы савецкі пісьменнік В. Шышкоў пісаў пра літаратурныя патрабаванні той пары: «Калі ў вершы замест «мы» — «я» — скандал: «індывідуалізм, містыцызм, анархізм, контррэвалюцыя» [1].

Аддаў даніну масаваму і М. Чарот, аднак творы яго застаюцца красамоўным мастацкім дакументам той эпохі.

Вялікі поспех мела «паэма-фантазія» М. Чарота «Чырванакрылы вяшчун». Яе герой — савецкі чалавек — паляцеў на незвычайным «аэраплане» над прасторамі свету, каб узняць дух рэвалюцыйна-вызваленчай барацьбы працоўных у капіталістычных і каланіяльных краінах. Мы нічога не ведаем пра гэтага чалавека, але з захапленнем сочым, як краіны і кантыненты, што рассцілаюцца перад ім — Польшча, Германія, Францыя, Афрыка, Паўднёвая Амерыка і іншыя, чуюць яго заклік, вітаюць героя.

У жалобныя студзеньскія дні 1924 года ў часопісе «Полымя» была надрукавана паэма М. Чарота «Ленін». Вобраз Леніна даецца праз успрыманне селяніна Мікіты, які даведаўся пра Уладзіміра Ільіча ад сына-салдата. (Апасродкавана, часцей за ўсё праз успрыманне іншых асоб, вобраз Леніна паказаны і ў вядомай паэме У. Маякоўскага «Уладзімір Ільіч Ленін»; падобны мастацкі прыём выкарыстаў і М. Ціханаў у паэме «Самі».)

Чаротаўская паэма «Ленін» і сёння кранае шчырасцю і пяшчотаю сваіх радкоў, глыбокім веданнем вясковага чалавека таго часу, селяніна-бедняка. Вось Мікіта ўглядаецца ў партрэт Ільіча:

Мікіту здавалася часта,
Што партрэт —
На сценцы гавора,
Што папера —
Словамі шастае,
Як Мікіта кажа пра гора.

Для большай пераканаўчасці паэт «ажыўляе» рэчы і дасягае адпаведных мастацкіх вартасцей.

У гісторыі беларускай літаратуры засталіся і такія яго паэмы, як «Беларусь лапцюжная», «Марына», «Карчма», «Дзяўчына, якая не сумуе».

М. Чарот быў чалавекам неспакойнай душы, ён усё хацеў бачыць на свае вочы. У сярэдзіне 20-х гадоў ён шмат вандраваў па Беларусі, па яе гарадах і мястэчках. У выніку гэтага быў напіса-

[1] Шышкоў В. Литература в провинции.— Красная новь, 1924, № 3, с. 285.

ны цікавы нарыс-дзённік «1200 вёрст па Беларусі». Паездкі спрыялі рабоце і над іншымі творамі.

М. Чарот пісаў апавяданні, п'есы, кінасцэнарыі, публіцыстычныя творы. У беларускую літаратуру 20-х гадоў шырока ўвайшоў новы матэрыял. Аўтамабіль, самалёт, трактар, камуна, заводы і фабрыкі, калгасы, услаўленне калектыўнай працы — усё гэта знаходзіць больш ці менш глыбокі адбітак у яго творчасці.

Вось, напрыклад, апавяданне «Самалёт». Ля глухой вёскі Венцяры, на вачах яго жыхароў апусцілася на поле «няведамае страшыдла» — самалёт.

«Некалькі чалавек кінулася ўцякаць у вёску... Уся грамада разбеглася... Маладыя хлапчукі прыляглі пад мяжою і, як зайцы, баяліся вытknуць вушы.

Самалёт апусціўся на чыстай і гладкай угарцованай авечкамі палосцы, непадалёку, дзе толькі што стаяла грамада.

Два чалавекі вылезлі з самалёта і махалі на сялян шапкамі, каб ішлі да іх...

Ніхто першым не адважваўся...»

Аднак новае, савецкае, паступова ўсталёўваецца і ў вёсцы. Пра гэта зборнік апавяданняў «Веснаход» (1924). У ім расказваецца пра падзеі, якія адбываліся на Беларусі ў час рэвалюцыі і грамадзянскай вайны, у аднаўленчы перыяд, паказваецца мужнасць працоўнага беларуса ў барацьбе з класавымі ворагамі.

У 1929 годзе выйшла новая кніга вершаў М. Чарота «Сонечны паход». Перачытваючы яе сёння, можна заўважыць, як узрастае ўвага паэта да адлюстравання таго ўнутранага ў чалавеку, што складае тонкі свет яго душэўных імкненняў у іх рэальным, канкрэтным бытаванні. Паэт ішоў да адкрыцця сацыяльна значнага ў «сваім», інтымным, да разумення ўзаемазалежнасці прыватнага і агульнага, якое ў лірыцы і праяўляецца толькі як асабістае і непаўторнае.

Шырока вядомы яго верш «На новай зямлі» апявае тыя змены, што адбываліся на родных прасторах.

А поле, поле. Шыр бясконца.
Куды ж дзяваліся ўсе межы?
Усё нова тут, пад новым сонцам,
Усё для мяне тут нова, свежа...

Па-іншаму загучалі ў яго пейзажныя матывы:

У разгоне
Белы коні
Сівы грывы
Распусцілі.
Заскрыпелі, зарыпелі
Палазы ў лазе, запелі...

(«Шляхам зімнім»)

Дэкларацыйнасць, адцягнены касмізм і абстрактнасць 20-х гадоў саступаюць месца лірыцы канкрэтных, індывідуальных перажыванняў. Павышэнне эстэтычнай культуры, паглыбленне рэалізму паэзіі на глебе далейшага пашырэння грамадскіх далягляддаў, узбагачэння новым жыццёвым зместам — вось што становіцца

ўласціва беларускай паэзіі 30-х гадоў, у тым ліку і паэзіі Чарота.

«Больш усяго люблю пісаць вершы»,— прызнаваўся паэт. Гэта быў чалавек рознабаковага таленту. «Паэт, празаік, драматург, артыст, журналіст, грамадскі, палітычны і культурны дзеяч — такім быў Міхась Чарот, такім шырокім было кола яго інтарэсаў» [1],— заўважае даследчык яго творчасці М. Ярош.

На пачатку 20-х гадоў М. Чарот іграе на сцэне ў тэатры У. Галубка, піша шэраг твораў для тэатра: «Слуцкая варона», «Сон на балоце», «Мікітаў лапаць», «На Купаллe» (потым кампазітар А. Туранкоў створыць паводле гэтай п'есы оперу «Кветка шчасця») і інш. Па аповесці «Свінапас» М. Чарот сумесна з рэжысёрам Ю. Тарычам піша сцэнарый першага беларускага мастацкага фільма «Лясная быль» (1926).

Ён вядомы як актыўны грамадскі і палітычны дзеяч, быў членам ЦВК БССР, кандыдатам у члены ЦК КП Беларусі. У другой палавіне 20-х гадоў М. Чарот з'яўляецца галоўным рэдактарам газеты «Савецкая Беларусь», затым — часопіса «Чырвоная Беларусь».

Паэт дзейсна ўплываў на літаратурны працэс. «Мы шмат вучыліся ў М. Чарота, яго сапраўды дынамічнай, багатай рэвалюцыйным пафасам паэзіі,— успамінаў П. Броўка.— Мы вучыліся ў яго і свежаму моўнаму матэрыялу. Усё гэта пасабляла стварэнню нашай паэзіі».

Любоў і павагу да М. Чарота — паэта і чалавека — засведчылі многія яго сучаснікі. З успамінаў паўстае яго праўдзівы воблік. М. Хведаровіч расказвае, як у сакавіку 1936 года група пісьменнікаў удзельнічала ў сходзе партактыву г. Магілёва, слухала выступленне М. Чарота:

«Не толькі свае кнігі, але калі я нават гартаю сваю душу, я заўсёды бачу перад сабою мудры мацярынскі вобраз Партыі, якая натхняе мяне, вучыць мудрасці мастацкага слова, дае мне сілы перамагаць цяжкасці і ісці ў нагу з маім народам. Назаўсёды ў маім сэрцы жыве і будзе жыць кіпучая нянавісць да праклятага мінулага і вялікая любоў да ўсяго новага, што будуем мы ў сваёй краіне...» [2].

*Уладзімір Гніламёдаў*

---

[1] Ярош М. Р. Міхась Чарот.— Мн., 1963, с. 78.

[2] Хведаровіч М. Памятныя сустрэчы.— Мн., 1977, с. 105.

# ВЕРШЫ

*
*   *

Толькі меч і агонь
Змогуць долю каваць,
Адалеюць няволю без страху!
Дзе ты, вецер — мой конь?
Дзе цябе адшукаць?
Я паеду па новаму шляху.

*1917*

## ЗВОН

Зазвані моцна, звон, загудзі,
Каб пачулі цябе на ўвесь край,
Беларуса хутчэй разбудзі,
Хоць цяпер яму спаць ты не дай!

Прыйшоў час, калі сорамна спаць;
Усе так шчыра за працу ўзялісь,
Усе жыццё пачалі будаваць,
А ты спіш... Хоць ад звону праснісь!

Паглядзі, як сусед пачаў жыць,
Што нядаўна нявольнікам быў.
Ён не спаў,— і цяпер ён не спіць,
Усім кажа, што ён яшчэ жыў.

А чаго, беларус, ты маўчыш?!
І табе годзе, братку, драмаць:
Калі можна гукаць — ты маўчыш,
Каб пасля не прыйшлось шкадаваць...

Кінь саромецца мовы сваёй,
Звац сябе беларусам пачні,
Папрацуй над сялібай сваёй,
А пасля з ціхатой адпачні!..

Дык звані моцна, звон, і гудзі,
Сваім гукам глушы увесь край!
Хто шчэ спіць — ты таго разбудзі,
Хто не спіць — тых да працы збірай!

*1918*

## ПЕСНЯ БЕЛАРУСА

Не асенні вецер ў гаі
Вые-завывае,
Беларус аб родным краі
Жаласна спявае.
Ў кожнай песні ён ад сэрца
Праклінае долю,
Жыць не хоча ў паняверцы —
Рвецца ён на волю.
Няхай ў песні жальбу чуюць
Аб нашай нядолі,
Можа, прыйдуць, пашкадуюць,
Дадуць хлеба, солі...
Эх, не трэба нам ахвяры,
Прасіць вас не будзем,
Вось як знікнуць гэты хмары,
Самі ўсё здабудзем.
Знікнуць хмары, сонца ўзыдзе
І над нашым краем,
Грамадою тады выйдзем,
Песню заспяваем.
Каб пачулі лес і поле
І памаглі пеці,
Што жывуць ужо на волі
Роднай зямлі дзеці.
А цяпер не плач дарэмна,
Беларус, мой браце,
Хоць і кпяць з цябе нікчэмна
Ў тваёй нават хаце.

Хутка прыйдзе час-гадзіна,—
Вораг кіне кпіці:
Яму будзе дамавіна,
А мы будзем жыці.

*1919*

*
* *

Схавалась сонца... Згас заход...
Усё пакрыла цемень ночы,
І толькі рэчка між балот
Блішчыць, аб берагіляскоча...

Ды ціха шэпчацца чарот,
Лясун, русалка зарагоча...
А ў небе зорак харавод
Гарыць, нібы дзяўчынкі вочы.

*1919*

## СЦЯГ ТЫ ЧЫРВОНЫ ТРЫМАЙ

Гэй, пагарджаны народ,
Смела з адвагай ўпярод!
Скінуў няволі цяжар,—
Сам будзь зямлі гаспадар.

Шмат працаваў на паноў,
Шмат хто смактаў тваю кроў:
Ім ты цяпер адплаці,—
Птушкаю ў бой паляці.

Чуеш на захадзе крык?
Стан іх ужо невялік.
Белае мрэ страхаццё...
Смерць жа іх — наша жыццё.

Смела наперад у бой,
Хто не памершы душой...
Гэй, барані вольны край,
Сцяг ты чырвоны трымай!

*1920*

## МОЛАДЗЬ

Дзецям будучай камуны
Сонца ясна шле прамень,
Песню славы граюць струны,
Іх вітае новы дзень.

Хто пажар затушыць ў свеце,
Што шугае да нябёс?
Толькі вы, камуны дзеці,
Вас чакае лепшы лёс.

Хто тварэц жыцця людскога,
Волі, шчасця, пекнаты?
Хто кладзе к жыццю дарогу?
Ведай, моладзь, гэта — ты!

*1920*

## БЕЛАРУСЫ

Родная зямелька
Крывёю заліта,
        Лес, балоты, поле
        Курганамі ўзрыта.

Родная зямелька
Ворагаў змагала...
        Цяпер волі зорка
        Над ёй зазіяла.

Родная зямелька
Мусіць шчэ змагацца...
        Ідзе ў бой, хто хоча
        Беларусам звацца...

Родная зямелька
Жыць хоча раздольна...
Што мілей для сэрца,
Як краіна вольна?

Родная зямелька
Ў бой апошні кліча...
Йдзі, хто хоча волі,
Дык сынам заліча!

*1920*

## РАБОТА ІДЗЕ

Работа йдзе: вайна, пажар...
Глядзіць у вочы голад-цар!..
Куды ні йдзі — крывавы след,—
Народ будуе новы свет.

І чуе вораг смерці час,
Апошні сілы шле на нас...
Але дзе шмат крыжоў, магіл,
Гатова раць там новых сіл...

Яна ідзе на смертны шлях,
Ў руках дзяржыць Чырвоны сцяг...
Уперад мкнецца грамадой,
Ідзе, заве: «На бой! на бой!»

Агонь не тухне. Кожны дзень
Расце іх лік, як ў рань прамень...
Бой скончаць хутка... на крыжах
Развесіць моладзь вольны сцяг!

*1920*

## НА ЧЫРВОНАЙ ДАРОЗЕ

Селянін і рабочы — удвух
Стары свет агнём паляць, руйнуюць
І на вогнішчы новы будуюць,
Панаваць ў якім будзе молат і плуг.

Ад машын закурэлых, з загону
Йдзе рабочы, а з ім селянін...
Дружна песню пяюць, як адзін...
І баіцца ўвесь свет іх разгону.

Чырванее ўсё болей і болей
Іх дарога да сонца, да зор...
Але маніць іх вольны прастор,
І жыцця не шкада ім за волю.

Яны йдуць... і завуць на ўспамогу
Паднявольных, пакрыўджаных ўсіх...
Хто галодны, халодны імкнецца да іх,
Смела йдзе на Чырвону дарогу.

І ідуць грамадою бясконца...
Лікам шмат іх, і моцны іх дух...
А над імі ўжо молат і плуг
Зіхацяць у праменьчыках сонца.

*1920*

## ВЕЧАРАМ

Хавае змрок у небе хмары.
Агонь ён паліць вечных зор;
Глядзіцца месяц у выгары,
Дзе не змаўкае жабаў хор.

Не хіліць вецер куст ракіты,
Не свішча сумна, як удзень...
На гай, на поле і на хаты
Спаўзае ночы лёгкі цень.

Туман бялее над балотам,
Дзяргач завёў траскучы спеў,
Жукі лятаюць па-над плотам,
Жывёла йдзе з пагону ў хлеў...

Ідуць ад працы ў вёску людзі,
Дзяўчаты, хлопцы, мужыкі,

І гукі песні роднай льюцца,
Як хвалі быстрай той ракі...

Змаўкае спеў... Вось ночы ціша
Нясе ўсяму святы спакой...
А сэрца доўга мне калыша
Твой сумны спеў, край родны мой.

*1920*

## НА МОГІЛКАХ

*Ахвярую А...*

Спявай мне, дзяўчынка, пра кветкі, пра гай,
Пра лепшыя дні, пра вясну,
Пра наша каханне, галубка, спявай —
Пад ціхі твой спеў я засну.

Ці помніш спатканне, нясмелы пагляд...
Нам зорка там з неба упала,
Там месячык ясны ўзіраўся на сад,
Ты думкі мае угадала.

І песню пачуў я, ты пела тады,
А гукі няслісся далёка,
Той песні вясенняй засталісь сляды,
У сэрца запалі глыбока.

Гады праляцелі... Нібы неўзначай,
Мы разам спаткалі вясну...
Дык зноў тую песню, дзяўчынка, спявай —
Пад ціхі твой спеў я засну...

*1920*

## ДА ПРАЦЫ

Волі прыждала ты, маці-краіна,
Выйшла на шлях ты з цямноты.
А у сыноў тваіх гнецца ўсё ж спіна,
Працы нямала гаротным.

Глянеш вакола — сэрца захватуе...
Колькі шчэ трэба нам сілы:
Хата старая, стрэхі садратыя,
Хлеў аж хістаецца згнілы.

Вокам акінеш родны палетак,—
Дзёрнам зрасліся загоны...
Хопіць тут працы для нас і для дзетак,
Хоць і працуй без паклону.

Працу даўно тут ужо распачалі:
Бачым між дзёрну разоры,
Ў час і няволі таксама аралі,
Нібы краты свае норы.

Час той загінуў, не трэба хавацца,
Кожны працуе на волі...
Выйдзема, хлопцы, ўсе, выйдзема, братцы,
К працы вялікай на поле!

Ўсе грамадою, не думайце думу,
Дума не йдзе на пажытак...
Здзеку мінулага, крыўды і глуму
Згіне хай у сэрцы адбітак.

Нашу краіну, што звалі ўсе дзікай,
Зробім квяцістай, прыгожай!..
Працы далучым, дык будзе вялікай —
Ў свеце не знойдзем пахожай!

*1921*

## КАБ Я БЫЎ...

Каб я быў крылатай птушкай,—
Не ляцеў бы я у гай,
Пеў бы песні-весялушкі
Там, дзе слёзы лье ратай.

Каб я быў бурлівай рэчкай,—
Мужыка паганы лёс
Не знайшлі б тады са свечкай,
Так далёка б я занёс.

Каб я быў прыгожай кветкай,—
Расцвітаў бы кожны год
На няўродлівым палетку,
Дзе расце палын, асот.

Каб я быў вясеннім сонцам,
Што прыгожа так гарыць,—
Бедным людзям у аконца
Першым стаў бы я свяціць.

Каб я быў на небе зоркай,—
Што блішчыць, аж любата,
Я глядзеў бы на надворкі,
Там, дзе вечна цемната.

*1921*

## ДАВОЛІ СЛЁЗ

Годзе пець песні нам сумныя, нудныя,
Краю даволі ўжо слёз!..
Ўжо прамінулі няўзгоды пакутныя,—
Плачам не злечым свой лёс.

Дні паднявольныя болей не вернуцца;
Эх, не надзенуць нам пут...
Хай хто наважыцца, хай хто намерыцца —
Сам імі будзе ён скут!

Помста мінулых дзён катам і ворагам,
Больш не пацерпім мы слот:
Ў бойку рашучую выступіць зможам мы,—
Наш прабудзіўся народ.

Волю, здабытую кроўю, ахвярамі,
Хай хто захоча адняць...
Край наш, зруйнованы бойкай, пажарамі,
Болей не будзе стагнаць.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Толькі шкадуе нас сонца агністае
Свеціць цалюткі нам дзень,

Грэе гушчары, балоты імшыстыя
Новы яскравы прамень.

Ў кузнях рабочыя, ў полі аратыя
Моцныя ўсе, як адзін...
Песня іх гучная сэрца ўсім кратае,
Чуеце: «Гэй!» і «Дзінь-дзінь!»

Песня вясёлая. Праца марудная...
Брат наш не гэтулькі знёс...
Годзе пець песні нам сумныя, нудныя,
Краю даволі ўжо слёз!

*1921*

## ДАРАГОЙ ПАМЯЦІ СЦЯПАНА БУЛАТА

Хоць сонца і свеціць, а дзень сумны... хмуры...
Спакою душа не знаходзіць...
Стаю я маўклі́ва і чую, як бура
Жалобную песню заводзіць.

Я бачу, як з дрэва сарван ліст зялёны,
Нясецца удаль адзінока...
І вецер сам плача... імчыцца шалёны
І гоніць без жалю далёка...

І ты, нібы ліст той, злой смерцю паганай
Ад сонца... ад волі узяты,—
Ты бурай жыццёвай ад нас адарваны...,
І сэрца баліць так ад страты.

Мы знаем, што будзем мы ўсе у магіле,
Канца не мінуць нам такога...
Навошта ж лёс дрэнны у лепшую хвілю
Сцяў кветку жыцця маладога?..

Мы скаргу на долю навек утрымаем,
Хоць ў сэрцы і зробіцца ціша,
І помсту на лёс мы тады пахаваем,
Як хваля і нас закалыша.

Ясней свяці, сонца! Шлі волі праменні,
Сагрэй маладую ты сілу...
Ты, бура, замоўкні! Схілі ты калені
На жоўтай і свежай магіле.

*1921*

## АРАТАМУ

Прыйшла вясна... Хай згіне сон!
Бяры хутчэй сявеньку,
Выходзь на ўзораны загон,
Сей, братку, памаленьку.

Цябе чакае ўжо ралля
Прыгожай вольнай нівы,—
Няма асоту, ні быллля...
Год будзе урадлівы.

Зямлі ты роднай гаспадар,
Не пасынак у маткі...
Крывавай працы шчодры дар
Не пойдзе на падаткі.

Ты працаваў... а крыўда, здзек
Над каркам панавалі...
Цябе за працу з веку ў век
Жывёлай абзывалі.

Слязамі, потам палівау
Ты родныя абшары.
Жыцця ты вольнага чакаў,
І вось... збыліся мары.

Загінуў вораг — вечны кат.
Не прыйдзе ён ніколі...
Трымай жа моцна, родны брат,
Свой сцяг здабытай волі.

Вясною ранняю засей
Загон свой ярыною

І думкі сумныя развей
У полі за сахою.

Паслухай, жаўрык што звініць,
Што ён табе гавора:
Араты вольна будзе жыць,
Што сном было учора!

А сонца яснага прамень
Цябе як моцна грэе...
Цябе вітае новы дзень...
Глядзі! Усход бялее!

І новы дзень за працу дар
Нясе... О, дар багаты!
Зямлі і працы гаспадар,
У поле йдзі, араты!

*1921*

## КЛІЧ ЗВАНОЎ

Ноч чорная хаваецца,
І гіне сон...
Чуць раніца ўглядаецца,
Я чую звон...

Гудуць званы мядзяныя
На цэлы свет...
І чуюць сэрцы ржавыя —
Іх чэзне след.

На кліч званоў грамадамі
Да працы йдуць
Ўсе, як адзін, з прыладамі
Жыццё куюць.

Ўсе б'юць ў званы... змагаюцца...
Каваль, ратай...
І рэха разлятаецца
Ад краю ў край.

На кліч іх заклікаючы
Ідзе народ,
Дзе сонцам незгасаючым
Гарыць усход!

*1921*

## МНЕ СНІЛАСЯ...

Мне снілася ў цішы вясенняй цёплай ночы,
Што вольным быў краіны ўсёй абшар,
Што вольным быў народ, якім даўно быць хоча,
І патухаў адвечны тут пажар.

Здавалася: браты, што стогнуць у няволі,
Ужо парвалі ржаўлены ланцуг...
Ад краю ў край на родным вытаптаным полі
Спакойна йшоў сталёвы, новы плуг.

І гэты плуг араў глыбокія разоры —
Ён раны засыпаў — падзелаў след...
Араты песню пеў, прыгожа слаў узоры
На тых ганях, дзе плакаў бацька й дзед.

Вось бачу я у сне: зямля апошняй скібы
Засыпала краіны той парэз,
Які мяжою быў — дзяліў адну сялібу...
На месцы тым пастаўлен здзеку хрэст.

І кроўю той, што брызнула з глыбокай раны,
Заліўшы чырванню увесь прастор,
Узбуджаны народ ўсім ворагам няждана
Ў адплату піша смертны прыгавор.

*1921*

## МАЛАДОМУ ПЕСНЯРУ

Гэй, пясняр малады, не вучыся спяваць
Новай песні на сумны той лад.
Весялей трэба йграць, хоць бы й струны парваць,

Хоць і сам мо вяселлю не рад.
Ведай ты, што твой верш раніць сэрца людзей,
Абаўе ён іх цела, як вуж...
Дык іграй весялей, гані смутак з грудзей,
Пакуль шчэ малады ты і дуж.
Загартуй ты свой верш, як у горані сталь,
Стралой вострай ляціць хай у свет,
Абшукае хай даль, знойдзе ў сэрцы скрыжаль
І пакіне на камені след...

. . . . . . . . . . . . . . .

Шмат хто песні складаў пра гаротны наш край —
Апявалі няволю і глум...
Ты, пясняр, заіграй, галасней заспявай,
Хай загіне адвечны наш сум.
Няхай новы твой спеў гразь балот скалыхне,
Хай узбудзіць заснуўшы лес, гай...
Няхай вольна ўздыхне, хай вясёла зірне
Наш спрадвеку заплаканы край!

*1921*

## ВЕДАЙ, СВЕТ...

Ведай, свет, што я сын мужыка-бедака,
Які доўга ў няволі стагнаў...
Ўзгадавала мяне яго чорна рука,
А купала нядолі адвечнай рака,
Голад, холад мне ў твар пазіраў...

Дні ішлі... Ў беднай вёсцы пеў песні народ,
Разганяў гэтай песні нуду...
Ў полі жыта ў снапах, нібы той акалот,
Хата згніўшая ўся, хлеў стары без варот,
Вось якую я бачыў бяду...

Ўсе казалі, што й сын, як і бацька-мужык,
Перад панам свой горб будзе гнуць...
Што з другімі людзьмі ён не пойдзе у лік,
Запрацуе сабе лапці з ліпавых лык.
Вольнай песні не будзе ён чуць.

І запала тады іскра ў сэрца грудзей,
Запаліла там помсты пажар,
І з агнём тым у свет я пайшоў да людзей,
Песні сам пачаў пець я пра волю смялей,
Каб быў кожны сабе гаспадар.

Бач, ад песні маёй скалыхнуўся ўвесь свет,
Сонны край я ураз разбудзіў...
І на тым кургане, дзе спяваў сумна дзед,
Дзе мінулай няволі не змыт яшчэ след,
Прамень шчасця ужо засвяціў.

Паўстаюць, як з зямлі, рвуцца к волі з цянёт,
Песня ў сэрцы спаткала адгук!
Йдуць да сонца яны, йдуць к жыццю — напярод,
Абагрэцца хутчэй, асушыць кроў і пот,
Загаіць мазалі чорных рук...

Ведай, свет, я вясковы,— мужычы сынок,
Я пяю, што пяе селянін...
А ты чуеш? Іграе заводаў гудок,
Ў кузні гучна звініць каваля малаток,—
Пра адно мы пяем, як адзін!

*1921*

## КАСАВІЦА

Загарэўся усход... Бляск зарніцы патух...
На траве слёзы буйнай расы...
Грае ў вёсцы труба,— выганяе пастух...
Між кустоў чутна песня касы.

Забялелі шнуры ад кашуль мужыкоў,
І калышуцца хваляй рады...
Свіст касы, звон мянташак, брускоў
Ды ад ног на балоце сляды.

За пракосам пракос выплывае уміг
З мора вечна зялёнай травы...
Касцоў песціць рукой сонцавей залаты,—
Чэша праменем сноп галавы,

Эх і цяжка касцам... рукі, плечы баляць...
Хмара гляне з-за лесу, як дым,—
Граблі ў рукі — сухое зграбаць!..
Ў касавіцу спачынак не ім.

І ад рання да зор, пакуль ноч напаўзе,
Як мурашнік, кішыць сенажаць...
Сонца сядзе за лес... Ночка вось балазе,—
Йдзе да хаты працоўная раць.

Жарты... песні чуваць удалой грамады,
Рогат звонкі хлапцоў і дзяўчат...
Эх, мінулі няволі спрадвечнай гады,
І ад працы не плача наш брат!

*1921*

## ГУДЗЕ ЗВОН

Гудзе звон... Мільёны мазолістых рук
Б'юць жалезам аб бераг мядзяны,
І клічам магутным разносіцца гук,—
Заве да жыцця!
Грамадзяне:
Рвіце ўсе адвечнай няволі ланцуг,
На кліч звона ідзі, хто не скуты!
Будзеш ты уладар, будзеш — бог,
Калі пройдзеш ты шлях — шлях пакуты.
Не ў прыгожым убранні йдзеце туды,
Калі гнуцца пад крыжам калені,
Кроўю змочаны будуць вашы сляды.
Не памогуць паклоны, маленне.
Звон гудзе... Будзе доўга і моцна гудзець,
Пакуль скрыўджаны брат не паўстане,
Хутчэй сонца свяціць перастане,
Чым пра волю пакіне ён пець.
Чуе свет... усіх будзіць гулкі наш звон...
Размахні і удар не паволі!
Мацней загудзе... запяе ён «дзін-бом!..»
Чуеш! чуеш, сын вечнай няволі?!
Вораг плача... шчыра як моліцца ён,
Ветрам страшным пад звон завывае...

І хаўтурным напевам стогне наш звон,
Калі шлях хто к жыццю захіляе.
І гучней, і гучней тады звон наш гудзе.
Ў хвалях звону не гасне надзея...
На кліч грамада смела, дружна ідзе,—
Шлях, што ўдар — карацей і святлее.

*1921*

## БУНТАР

Я шумлівы чарот, я мяцежны бунтар.
Я балота буджу гучным шумам.
У вадзе я жыву і абмыт дажджом хмар,
Але змоўкнуць не дам сваім струнам.

Уздыму дух людзей, прабуджу іх ад сну,—
Славу, будучнасць я ім прарочу...
Я, мяцежны бунтар, клічу жыцця вясну,
Клічу к працы свабоднай і творчай.

Як не счуюць мяне, я мацней загуду,
Дам гучнейшы акорд песні новай...
А каб змыць з зямлі бруд, скалыхну я ваду,
Што дажджом налілася свінцовым.

Чаму ж вы, песняры, што будзілі людзей,
Чуць не хочаце песні чароту?
Нашы песні — наш кліч, бо адных мы грудзей,
Край адзін наш — то наша балота.

Дык шумі, як шумеў, велікан-ясакар,
Шапаці, спелы колас, у полі...
А я песню сваю буду пець — я бунтар!
Буду клікаць народ свой да Волі.

*1922*

# РОДНЫЯ ПТУШКІ

## І. У ВЫРАЙ

Надходзіў час зімы сцюдзёнай,
Плылі над краем цёмны хмары,
Змяніўся колер траў зялёных,
Замоўклі жабы у выгарах.

Халодны вецер дзьмуў з паўночы
І песню жальбы пеў у полі;
Чарней як сажа сталі ночы;
А ўдзень туманна, як ніколі.

І чуюць птушкі — холад, сцюжа
Краіну раптам агартаюць...
Са смуткам ў грудзях яны гужам
У край чужацкі адлятаюць.

Апошні погляд, поўны жалю,
На родны кідаюць палетак...
Назад іх вабяць руняў хвалі,
Чароўны пах асенніх кветак.

А вецер свішча... стогне... плача...
Снег беліць родныя загоны,
Мароз-траскун на полі скача,
Ён птушак не здагоніць.

## ІІ. НА ЧУЖЫНЕ

Цёпла тут. Снягі не ўюцца.
Спачываюць птушкі,
Але штосьці не пяюцца
Песні-весялушкі.

Па дарозе ў край далёкі
Шмат хто з іх загінуў,
І тут ім няма палёгкі —
Не свая краіна.

Цераз моры-акіяны
Думка іх нясецца

У той бок, дзе край каханы,
Цяжка дзе жывецца.

Яны ведаюць: там бура
Гнёзды раскідае,
Поле роднае віхура
Снегам замятае.

Яны знаюць: жыць там трудна
Вераб'ю, сініцы...
А вясны чакаць як нудна!
Вясна толькі сніцца.

Але вераць, вераць птушкі,
Думка іх не згіне...
Спяюць песні-весялушкі
На сваёй краіне.

## III. З ВЫРАЮ

Ад берагоў ракі далёкай — Ніла
Лятуць вясёлымі яны
У родны край, дзе ўсё так сэрцу міла,
Дзе сонца блеснула вясны.

«Вясна! Вясна!» Яны запелі песню,
Лятуць на родны свой загон...
Пад хмарамі спляліся птушкі цесна,
Не моўкне спеваў перазвон.

Гарацць агнём пабачыць вольны нівы,
На родны узляцець прастор...
І ў ясны дзень, і ноччу палахлівай
Нясуцца шляхам вечных зор.

Цяпер нішто, нішто іх не пужае,
Забылі блукання цяжар,
Бо ведаюць — іх родны кут чакае,
Дзе сонца свеціць — волі дар.

І толькі сум, як змрок які, нахлыне,
Калі ўпадзе хто з-пад нябёс,
Агорне жаль, што мілай той краіне
Жыцця свайго ён не данёс.

Праходзіць сум... І зноў яны нясуцца
На родны край, дзе знікнуў цень...
Ад песні іх лясы там скалыхнуцца,
Вітаць якою будуць дзень.

### IV. НА РОДНАЙ КРАІНЕ

На вузкіх загонах поля,
З высокіх гор
Струйкі пабеглі паволі
На вольны прастор.

І траўка каўром аксамітным
Краіны убрала абшар;
На небасхіле блакітным
Няма хмар.

Новай вясны
Кветкі на сенажаці...
Ужо прыляцелі яны,
Дзе зямелька-маці.

На гняздзе, раскіданым бураю,
Бусел клякоча...
Ластаўка ўецца віхураю —
Над хатаю новай клапоча.

Жаўранак звоніць
Над вольным аратым...
Цяпер яго ястраб не зловіць...
Крумкач не ўзаўецца над хатай...

Калі ж і падымецца хмара
Над роднаю, вольнаю нівай,—
Дожджык патушыць пажары,
Зробіць зямлю урадлівай...

Сцюжа зімова мінула,
Бура пакінула выць...
Вясна на наш край заглянула,—
Мы будзем жыць!

*1922*

# ЖЫВОЕ БАЛОТА

Няхай гудзе віхор, няхай змятае
Збудаваныя тут вякамі курганы,
Тут новы будзе край, тут волі дух вітае,—
Не дасць ён згінуць нам, гаротныя сыны.

Няхай агонь зямлі да хмар шугае!
Ад буры рушачай краіна не засне,
Паўстаўшы наш народ красу жыцця спазнае,
Як после непагод свет сонейка зірне.

Няхай грукоча гром, трашчаць пяруны,—
Хутчэй загіне сон — прачнецца чалавек.
Свабодзе гімн спяюць душы жывыя струны,
У кнізе вечных спраў адзначыць новы век.

Мы смела магутнаю сілаю
Разгонім жыцця свайго змрок
І хутка ужо над магілаю
Спляцем вечнай волі вянок.

Праз мора агню і руінамі
Народ павядзем свой туды,
Дзе воля і шчасце!.. Не згінем мы!..
Наш шлях — гэта нашы сляды.

Мы верым, узбудзіцца воляю
Дух творчы усёй грамады...
Народ наш празван і нядоляю
Крыніцай жывучай вады.

Збудуем палац да нябёс...
Мы створым жыццё невіданае,
Там будзе ўсім брацтва чаканае,
Не будзе там здзеку і слёз.

Мы першыя пойдзем к Вялікаму,
Свой шлях працярэбім грудзьмі...
Пацерпім няшчасце без ліку мы,
Каб толькі назвацца людзьмі.

Мы клічам: гэй, людзі балотныя,
Свабодным будуйце свой край...
Нас сонца залье пазалотаю,—
Мы створым жыцця свайго рай!

*1922*

## ВЯСНУ ПЯЮ

Зямлю цалуе неба сінь
Сваім чырвоным сонцатварам,
І песню ночы «ква-кум-бінь»
Пяюць мне сонныя выгары.

У высі зорак сенажаць
Вартуе месяц — дзед двурогі,
Не хоча раніцу спаткаць
І лесам хмар ідзе, бязногі.

Капліца белая, як здань,
Ў тумане плавае за вёскай,
І сонцам спужаная рань
Прысела зайцам за бярозкай.

Дзянніцы зірк на небе стух,
Вясковых хат дымяць галовы,
У лапцях з пугаю пастух
Трубою плача на каровы.

Пяе у полі хор калёс,
Як старац з ліраю разбітай...
Загоны вузкія авёс
Убраў зялёным аксамітам.

Вясёлы птушак перазвон
Гудзе на воблачнай званіцы...
Бязмоўнай цішы гіне сон,
Як сонца выплыве крыніцай.

І сыпле промень вогнесталь,
К вачам схілю сярпом далонь я
І пазіраю моўчкі ўдаль,
У шыр блакітнага бяздоння.

*1922*

2 Зак. 2097

*
* *

Я зноў — дзе поле каласамі
Свайму паэту б'е паклон,
Дзе меж зялёных паясамі
Спавіты вузкі мой загон.

Я зноў — дзе вольхам і бярозам
Купае сонца галаву
І жменяй згорнутыя слёзы
Расою сыпле на траву.

Я зноў — дзе птушак пералівы
Звіняць, як струнаў перабор,
Дзе чорнай хмараю дажджлівай
Стаіць на ўзгорку шумны бор.

Я зноў — дзе рэчкі і выгары
Блішчаць люстэркам між балот,
І новай глебе шэпча чары
Вясёлым громам небасход.

Гляджу ў заплаканыя вочы
Старых жабрачак — родных хат,
Дзе па-над стрэхаю рагоча,
Мяне спаткаўшы, вецер-хват.

Я з ім па краі пранясуся
І прывітаю вольну шыр,
І песняй ліры памалюся
На незасеяны пустыр.

На сенажаці паначую:
Там буду коней вартаваць...
Расклаўшы вогнішча, хачу я
Начлег мінулы ўспамінаць.

Дзіцячых год вярну я гульні,
Скакаць я буду праз агонь,
Пакуль не спудзіцца вадгуллем
На небе месяц — белы конь.

Няспелым жытам сінявокім.
Як родны сын, а не чужы,
На мора траў пайду далёка
З касою вострай па мяжы.

Там ліры гук і посвіст косаў
Злучу ў адзін нячутны хор.
І на балоце след мой босы
Прыгожы вытапча узор.

Ад зморы соладка спачыну,
На сене свежым задрамлю,
Як неба ў чорную аўчыну
Зашые сонную зямлю.

Калі ж у марах мне — паэту
Пашле натхненні ціхі змрок,
Як з васількоў блакітных летам,
Спляту я з вобразаў вянок.

*1922*

## СЕНАЖАЦІ І ПОЛІ АСНЕЖАНЫ

Сенажаці і полі аснежаны,
Рэкі высланы гладкім памостам.
Воўк з гушчару дарогай няезджанай
Бяжыць к вёсцы няпрошаным госцем.

Лес у шлюбным адзенні, а хмурыцца,
Не вітае ён песнямі рання...
А ў вёсках завеяны вуліцы,
У мяккіх гурбах купаюцца сані.

Сівалапы гуляе пад вокнамі,
Пазірае хаціне у вочы,
Толькі ў поўдзень часамі замоўкне ён,
А як вечар — у шыбы стукоча.

Дзеці пальцамі шыбы з узорамі
Размалёўваюць, тулячы плечы.
Згорнуць ў жменю сняжыначкі-зоры
І бягуць пасмактаць у запечны.

Ноччу печ заспявае ім комінам,
Сон салодкі ў пасцелі ім сніцца,
Што ў садку яны з крыкам і гоманам
На сіле ловяць гуртам сініцу.

*1922*

## БАЛОТАМ СНЕЖНЫМ ПРАЗ САСОННІК

Балотам снежным праз сасоннік,
Які смаловым пахам вабіць,
Прастор балот зімою соннай
Люблю санямі разухабіць.

Люблю, як кусцік нізкарослы,
Калі з саней назад паглянеш,
Нібы адкінуўшы ён вёслы,
Плыве па белым акіяне.

Пукаты стог люблю аб'ехаць,
Сляды наўкол зрабіць палоззем,
І сена, выскубнуўшы вехаць,
Люблю раскідаць па дарозе.

Люблю, як санкі мчацца з плачам,
Пісклявы гімн зіме заводзяць,
А конь, падкуты чортам, скача,
Нібы па шкле, па гладкім лёдзе.

Люблю закутацца кажухам,
Згайсаць ад меж да меж краіну
І крыкнуць гучна завірухам,
Што ў хвалях белых не загіну.

І зноў ляцець... Дуга хай звоніць,
Пакуль конь лейцы не аслабіць...
Прастор балот зімою соннай
Люблю санямі разухабіць...

*1922*



Я пясняр лясоў, балота
І загонаў каласістых...
Мае песні — шум чарота
Па-над рэчкаю імглістай.

Мае песні — песні долі,
Шопат зор у паднябессі...
Хай ляціць, жыве на волі
Гучны вокліч маёй песні.

Мае песні — песні буры,
Гоман лесу ў непагоду,
Страшны посвіст злой віхуры,
Смелы кліч майго народу.

Мае песні — песні волі,
Гімн паўстаўшых на прадвесні...
Хай нясецца, хай ніколі
Не загіне вокліч песні!

*1922*

## ЗАВІРУХА

Над балотам гудзе завіруха...
Ведзьмай носіцца з краю да краю
І змятае з зямлі жыцця пацяруху...
Неба свінцовым дажджом палівае.

Бура ломіць дубы і бярозы-сталеткі,
Вываравае хвоі з карэннем...
І ўзыходзяць з-пад снегу чырвоныя кветкі,
Непагоды шалёнай насенне.

Мы засыпаны снежнымі іскрамі,
Ломім ногі ў галлі буралому...
Крычым сонцу: «Блізка мы, блізка мы!
К свету Вялікаму! Новаму!»

Нам не страшна мяцеліца смерці
І напевы хаўтурныя ветру...
Ўсё жыццё нам прыходзілась мераць
Агнявыя балоты і нетры.

Завіруха як свішча — мы слухаем...
Песцяць сэрца жалобныя песні...
Свет стары яна смела парухае,—
Гэта бура зімы напрадвесні.

Падарожны не згіне ў мяцеліцу.
Шлях ён знойдзе ў тумане балота...
Тут адважнаму путніку верыцца,
Што ўжо хутка міне яго слота.

Сонца гляне — асвеціць палеткі,
Згіне з сэрца бязмерная скруха...
Закрасуюць з-пад снегу чырвоныя кветкі,
Сціхне плакаць жыцця завіруха.

*1922*

## РУСАЛКА

Мяжою вузкаю ішоў я родным полем,
Мой хмуры твар чапалі жыта каласы,
Шапталі мне яны чароўну казку волі,
Манілі на прастор — у свет жыцця красы...
Пеў пташак стройны хор у паднябеснай высі,
А на зямлі трашчалі кавалі-стракозы...
Шмат кветак між травы вяночкамі спляліся...
І пах свой разлілі, каб я быў нецвярозы...
Хацелася мне пець... хацелася маліцца,
Хацелася за ўсё прынесці свету дар...
Зірнуў я ў сіню даль... аж бачу, мітусіцца
Між хвалі каласоў дзяўчыны белы твар.
Застукала ў грудзях... туман спавіў мне вочы...
Хацеў я уцякаць, нібы яе не бачыў...
Яна ж — жывая здань... Жартуе і рагоча
І бліжай да мяне, падняўшы рукі, скача.
Прыгожы, гібкі стан, а вочы — нібы зоркі,
А валасы — нібы травы шаўковай пук...

І чую раптам я салодкі спеў гаворкі,
Які і узбудзіў у грудзях сэрца стук.
«Прыгожы, мілы мой, ідзі у хвалі жыта,
Спазнаеш ласку ты загінуўшай дзяўчыны.
З красою гэтых ніў душою будзеш зліты...
Я веру, дарагі, што тут мяне не кінеш.
Ці помніш ты лясок, гамонку дрэў шумлівых,
Ці помніш погляд зор у вечнай сіняве,
Калі ў каханні ты мне кляўся жартаўліва
Пад ззяннем месяца ля рэчкі на траве?
Ці помніш, калі ноч свае паслала чары,
Як шчадна прыхіліў к гарачым губам шчокі?
І рой дзявочых дум разнёс, як вецер хмары,
І шчасце ты спазнаў там з птушкай сінявокай.
Спазнаў мяне?.. Няўжо мінулае каханне
Загінула ў цябе?.. Твой дух жывы
Не думаў мець са мною тут спаткання,
Каб шчасце зноў спазнаць у полі між травы?
Ідзі ка мне!..» «Яна!.. Загінь жа ты, загінь...
Яшчэ вясною... ты у рэчцы затанула...
Але твой твар... твой погляд вочак сініх...
«Ідзі ка мне» паціху, як тады, шапнула»...
«Ага, спазнаў!..» — панёсся рогат гучным звонам,
У шуме каласоў далёка дзесь заціх...
«Ратуйце!..» — крыкнуў я, нібы шалёны,
Калі сустрэўся зірк яе вачэй жывых...
...І помню, як праз сон, я дзіўны свіст у полі,
Як віхар гнуў к зямлі калоссі ўсе сцяною,
А ў небе гром грымеў так моцна, як ніколі,
І нейкі баль чарцей спраўляўся нада мною...

. . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . .

Калі прачнуўся я — была ўжо ціша ночы...
Нібы крылом якім зямлю акутаў змрок...
Мне страшна і цяпер... Здаецца, зноў рагоча,
Як вецер данясе калоссяў шум здалёк...
Здаецца, бачу я яе, нібы жывую,
Здаецца, зноў к сабе, чаруючы, гукае...
І ўспамінаю я дзяўчыну маладую,
Што, кінуўшыся ў вір, русалкаю гуляе...
Дзяўчынкаю была... Калісь мяне кахала,

І я яе кахаў, але кахаў на смех...
Цяпер яе няма... А здань яе паўстала,
Каб помсту цяжкую мне учыніць за грэх...

*1922*

## РАЗБУДЖАНАЯ

Беларусь,
Захутаная ў вопратку туману,
Пакорная і здзеку і прымусу,
Удаль пайшла к няведамаму стану
        Як дзён мінулых здань.
А тут жыве крывёю вымытае цела —
Працоўных Беларусь... І цяпер
Мы ў вопратку прыгожую яе адзелі...
Не сну ўчарашняму, а праўдзе сёння вер...
        Калі прачнууся — глянь!
Раскутая,
Імкнецца ўдаль... назад не пазірае,
Усё змогшая, магутная,
Працуе на зямлі над пабудовай раю...
        Жыцця змывае бруд.
І ставіць новыя на межах маякі,
Старанна ўвысь вядзе працоўныя палацы...
І вольна жывучы, мінулыя вякі
Дзяннiцай знішчаны і болей не прысняцца...
        На Беларусі тут!

*1922*

## ПОЛЕ ЦІХА ШАПТАЛА КАЛОССЕМ

*Ц. Гартнаму*

Поле ціха шаптала калоссем,
Як находзіла ворагаў раць.
Гэта ты у чырвоную восень
Сонны край свой пачаў вартаваць.

На шляху, на прыбітым гасцінцы,
На здратованых коньмі палёх

Гучны кліч твой, як водбліск зарніцы,
Адгалоскам жывучым разлёг...

Кургану не пяяліся песні.
Кім насыпаны, хто там ляжыць,—
У зямлі спачываць ім не цесна.
Не гнятуць іх гнілыя крыжы.

Ты вярбою шумеў пры дарозе,
Голлем вабячы неба блакіт,
Да тых гоней хіліўся бярозай,
Дзе прастор быў крывёю заліт.

Шмат разоў ты у полымі жыцця
Захліпнуцца збіраўся без слёз,
Калі вецер пажоўклае лісце
Па загонах спустошаных нёс.

І на хвалях вады ружаватай
Човен твой пераплыў ужо мель.
Разагнаў ты штандарам узнятым
Над балотам туманную бель.

*1922*

## МАЛАДНЯК

Тут учора бура выла нам.
Вецер-чмут гайсаў з кутка ў куток,—
Стары бор з карэннем выламан,
Сумны шум яго навекі змоўк.

Заіскрыла сонца — вір агню...
Буралом спаліла з голлямі!..
Зніклі хмары... і пад чырванню
Ўсе прасторы сталі голымі.

А сягоння — чутны водгукі:
— Нам расці — дык мала дня!
Толькі тут узняцца мог такі
Волат лес — наш Маладняк.

Стройны лес і горды выгляд,
Нібы раць, што мкнецца ў бой.
Яго шум — што голас: «Выедам
Пастаяць за праўду галавой».

Маладняк сваімі лісцямі
Шапаціць нам казку-вольніцу...
Помнім, помнім, як калісьці мы
Чорных дзён стрымалі конніцу.

Перастаў і сумны спеў гусці,
Дні прыйшлі — ажно не верыцца...
Хто ж адвагі знойдзе, смеласці
З сілай моладзі памерацца?

*1923*

## БУДЗЬ НА ВАРЦЕ

Чуць-чуць заціх гарматаў гук:
Сякер, лапатаў чутны стук...
Але сын вольнай беднаты,
Ваяк чырвоны, ведай ты,—
Яшчэ не кідай стрэльбу з рук!

Жыццё ты мірнае будуй,
Братэрству згоду ушануй;
А мкнецца вораг — ты глядзі:
Зноў смела ў бой тады ідзі,—
Свабоды кліч заўсёды чуй!..

*1923*

## АТАМАН

Калі сёння на сельскім сходзе
Крычаць:
«Трактар давай замест сох!..»
Думка ўраз — аб паўстанцкім паходзе
Па беларускіх лясох.

Колькі раз грымела паўстанне,
Каб пазбыцца няволі, пут...
Ды заўсёды ў мужыцкім стане
Канчаў справу чужынца суд.

Суд ліхі — над паўстанцам расправа!..
Каб мужык — ды паўстанец, бунтар?
Аб паўстаннях жыла толькі слава,—
Пра іх пелі наш лірнік, дудар...

Але ў песнях чуваць адвага...
На вачах — не пабачыш слёз...
А з грудзей не нясецца скарга
На мужыцкі паганы лёс...

Час мінуў... і мы у паўстанні...
Неспакой у мужыцкай крыві!..
Ну, цяпер ты, чужынец, васпане,
Мужыка, як раней, задаві?!

Не, пастой! ты нас не зможаш:
Бач, паўстанцаў новы набор...
Зноў знаёмае нам падарожжа:
Пушча, поле, імшары ды бор.

Мужыкі збунтаваліся дужа,
А у іх цяпер ёсць атаман...
І крыві не спужае іх лужа,—
Пераможа мужыцкі стан.

Вось і мы у паўстанні,—
Неспакой у мужыцкай крыві...
Ну, цяпер, пан, чужынец паганы,
Мужыка, як раней, задаві?!

*
* *

Жмурыць вочы вечар сіні...
— Гэй, на плечы торбы-ранцы!..
Каля лесу, па даліне
Ідуць хлопцы-навабранцы.

Ідуць хлопцы... млеюць ногі...
Па траве дыбаюць роснай...
Лепей голад, як астрогі...
А без хлеба — млосна... млосна...

Навабранцы — хлопцы бравы,
Самахвотна выйшлі з хаты...
— Дай спачынем ля дубравы,
Хоць падсушым світы-латы.

Жмурыць вочы вечар сіні...
А наўкола — ціша, ціша...
Толькі вецер пры даліне
Куст алешніку калыша.

Знялі хлопцы торбы-ранцы,
На траве прыселі роснай...
— Эх вы, хлопцы, эх, паўстанцы!..
А без хлеба — млосна... млосна...

Эх, ды што там!.. Што яда нам,
Калі мы цяпер ў паходзе!
Быць хутчэй бы аб'яднаным
З тым, хто хоча жыць у згодзе.

Зноў на плечы торбы-ранцы...
Каля лесу, па даліне
Мужыкі ідуць — паўстанцы...
Жмурыць вочы вечар сіні...

*
* *

Не лясы шумяць,
Не дубравы гамоняць,
Плача бацька, маці:
На паход, бач, звоняць.

На паход, бач, звоняць
Са званіцы-ўлоння,
З тых сяліб-загонаў,
Што паны палоняць.

Не жагнай, матуля,
Крык там не паможа...
Як прыйду адтуль я,
Будзе жыць нам гожа.

Плечы не сагнем мы,
Вольна будзе жыці...
Сіла ёсць сягоння,—
Бывай!.. Не тужы ты.

Плача бацька, маці:
На паход, бач, звоняць...
Не лясы шумяць,
Не дубровы гамоняць...

*
* *

І застукала сэрца улана:
На зямлі нашай — больш не яздок...
Паглядзеў — мужыкоў як наслана!..
Чуе грозны загад атамана:
«Мінск і Вільня, а там — Беласток!..»

Эх, пайшлі!.. Зварухнулася сіла,
Толькі рэхаю стогне абшар...
Хоць сягоння яшчэ і не ў Вільні,
Але тут вось мужык гаспадар!

Чуеш, сёння на сельскім сходзе
Крычаць:
«Трактар давай замест сох!..»
А галодных шмат яшчэ ходзіць
Па беларускіх лясох.

Але што!.. Хай праведзены межы,
Хай на целе краіны парэз...
Чуем вольны мы спеў Белавежы —
Там гукае паўстанцамі лес.

Тут аб трактары сёння размова,
Аб канале, электраплугах...
Калі ж трэба — заўсёды гатовы!
Добра знаем паўстанцкі мы шлях!..

Не заблудзім у буру і слоту,
Хоць засцеле балоты туман...
Тут гатовы паўстанцкія роты
І на варце ўсягды атаман!

Абы чуць неспакой на балоце,
Хай заплача няволяй лаза,—
У паўстанцкім апошнім паходзе
Буду першы я партызан!

*1924*

## ЗАРУНЕЛА, ЗАРУНЕЛА...

Зарунела, зарунела аксамітам...
Рэчкай срэбнай — сонцам залілося...
На палях здратаваных, прыбітых,
Паглядзі... вясну радзіла восень.

Маладняк зялёны, бач, кудравіць,
Ахіляе край яскравым лісцем...
Аб здабытай вольнасці і славе
Маладняк шапоча ў песні-свісце.

Зарунела, зарунела аксамітам...
Рэчкай срэбнай — сонцам залілося...
Паглядзі... Над краем ужо звіты
Промені, жытнёвыя калоссі.

Барацьбой гартованы, расправай...
На прастор, у сінь прыгожа выйсці...
Аб здабытай вольнасці і славе
Маладняк шапоча ў песні-свісце.

*1924*

## КАМСАМОЛІЯ

### 1

Вёска дрэмле... Вечар ліпнёвы...
Толькі вуліцы звонкі смех...
У лапці абуты [redacted] ліп новых,
Едуць яны на начлег.

Світкі зрэбны... Палатаны...
Але хлопцы — проста душа!
Гора бачылі шмат яны...
— Гэй, паганяй! Шырай шаг!..

Заляскалі коней капыты,
Дарогу друкуе сто ног...
Месяц плача хмаркай закрыты —
Угнацца за імі не мог.

Вось паляна — коньмі стрыножана...
Вогнішча! Песні! Смех!
Толькі лес шэпча трывожна
Дзіўны сказ пра новы начлег.



Ночка, ночка... Цёмна, нявесела...
Вые на выгане воўк —
Гэтай ночкай паўстанца павесілі,—
Разудалы спеў вёскі змоўк.

Загарэліся хлопцы помстаю:
Калі гэтак — адплата не грэх!
Хто з касой, хто з сякерай востраю
Выйшлі ў пушчу на новы начлег.

Звоніць пушча зноў разудалымі,
Зноў шугае на вогнішчы корч,
Калі трэба, то раз! — ударым мы!
Ты маўчы, чарнавокая ноч!..

Дні мінулі — хлопцам весела!
Выйшлі з лесу — іх не стрымаць.
— Сягоння паўстанцы вешалі,
Сягоння на волі іх раць!

3

І яны, яны камсамольцы.
Ім не страшна адкрытая смерць,
Іх аружжа выстралам моліцца,
Кліч іх гучны — наўкола глядзець!

І ў полі пад градам шрапнелі,
Захіліўшы ў чырвоны сцяг,
Марш хаўтурны не раз ім пелі
І хавалі пад звон — «тра-ра-рах!».

Тады рацъ іх праўляла трызну.
Набіралася смеласці, сіл...
Камсамолію — вольну айчыну
Не спужаць міліёны магіл.

Камсамолец — запалены гартам,
Камсамолец — бунтарскі дух,—
Адзін кліч — стане новая варта,
Адзін кліч толькі — «Змену рыхтуй!».

4

І расце, і расце, і мужае
Камсамольцаў адважная раць.
Што ім вораг? Што і мяжа ім,
Як захочуць яны пагуляць!

На заводах, на фабрыках дымных,
Дзе палёў сінявокі прастор,—
Яны злучаны палкім уздымам,
Іх злучае юнацкі задор.

Толькі кліч — і за шэрагам шэраг,
Нібы мора прыбоямі хваль,
Яны змыюць мяжуючы бераг —
Вольным спевам запеніцца даль.

Не стрымаць, не спыніць ў падарожжы,
Хто агнём гэтай сілы сагрэт...
Пабядзіць дух паўстанчаскі зможа
Камсамолец, бунтар і паэт!

5

Вёскі спеў... Шумы горада...
Вуліц вясёлы, звонкі смех...
Успамінаюць сягоння горда
Камсамольцы мінулы начлег.

З маршам ўдаль!.. Бач, здаволены!..
— Гэй, не адстань! Шы-рай шаг!..
Песню! Плакаць даволі нам!
Камсамольцы — хлопцы-душа!..

Світкі зрэбны... палатаны...
Фабрычнага дыму пах...
Гора бачылі шмат яны,
І цяпер ім змагацца — не страх!

Не жыццё — а раздолле!..
Бо дзеці паўстаўшых краін...
Беларусь! і ты, Камсамолія!
Я, камсамолец,— твой сын!..

*1924*

## МІЛЫ СЭРЦУ...

Мілы сэрцу, дарагі і любы
Дзён мінулых грозныя паходы...
Няхай сёння у паход затрубяць,—
Выйду першым з вогненнай паходняй.

Адпачну я, можа, на руінах,
Не шкадую ні жыцця, ні сілы...
Шлях адзін мой — згіну ці не згіну —
Бараніць, што сэрцу майму міла.

А цяпер я ў сонечным паходзе,
Песня льецца залатым струменем...
Слухай песню, вольны мой народзе,
Твой паэт цябе так разумее!..

Як і ты — і я жыву той думай,
Што мінуюць грозныя паходы...
Над людзьмі пакуль не знішчым глуму,—
Не тушы ты вогненнай паходні!..

## ЛЕНІНАМАЙСКАЕ

Май — басаногі хлопчык Валодзя
Песні слухае Волгі шырокай,
Май — Ленін на дымным заводзе,
На трыбуне з прыжмураным вокам.

Вечны май... У чырвоным убранні.
У вачах акіян срэбра-сіні...
Ён сягоння жалобай паранены,—
Вэльмам чорным над ім навіс іней...

Песня-плач, песня-кліч вызвалення
Увесь свет зачаруе сягоння...
Йдуць адважна і смела за Леніным
Вольны скіф і нявольнік калоній...

Май цяпла — закалосяцца нівы,
Май святла — сонца грае ў палёх...
Я сягоння шчаслівы, шчаслівы,
Што па свеце Май песняй разлёг.

Слухай, Май! Вясны ты любоўнік,
Той вясны, што з чырвонай травы...
Паміж сцягамі Леніна помнік,
Мне здаецца, што Ленін жывы.

Мне здаецца,— з драўлянай трыбуны
Ён на захад кіўнуў галавою...
На загонах там ветрана-буйных
Вольны Май задажджыўся крывёю...

Погляд Леніна ловяць мільёны,
Погляд Леніна маёва-прамністы...
А там... хмары скудлачаным лёнам
Над Нёмнам навіслі імглістым.

Май у пушчы зарошчай чуць звоніцца,—
То паўстанцкай зямлі пакаленне...
Там... у кожным промені сонца
Ловяць погляд няўмёршага Леніна.

Май шапоча сцягамі-лісцем
Аб краіне квяцістай і вольнай...

Нёман гойсае, нібы ў калысцы,
І таксама пяе аб раздоллі...

А тут... паміж хваляў маёвых
Я на Леніна помнік глядзеў...
Мне здаецца, вось-вось скажа словы
Шматмільённай сваёй грамадзе...

Ён жывы,— адгалосам няслося,—
Будзе жыць сонцавеючым Маем.
Бо Май і Кастрычнік увосень
Памяць вечна аб ім уздымае.

Май — басаногі хлопчык Валодзя
Слухае песні Волгі шырокай,
Май — Ленін на дымным заводзе,
На трыбуне з прыжмураным вокам.

*1924*

## ПРЫПЯЦЬ

Там, дзе сонца агнёвымі крыллямі
Хоча слёзы балота выпіць,
Шэпча хвалямі ціха гуллівымі
Чараўніца —
Прыгожая Прыпяць.

Зачараваны...
Чую, штось мудрае —
Мне гамоняць усплёскі ракі...
Я плыву...
Неба сінь... Зелень кудрая...
Берагі з вербалоз ды ракіт.

Як прыгожа!..
Ды толькі па лесе
Стогнуць цяжка сталеткі-дубы...
Ой, радзімае наша Палессе,
Хараство тваё хто загубіў?..

Чую сказ:
Дрэвам жаляцца хвалі,

Што з няволі бягуць —
З пазамежаў...
Ой, не раз дрэвы з ветрам паслалі
Свой паклон
У гушчар Белавежы...

Ну, а хвалям
Назад не пабегчы,
Каб сказаць,
Што жывецца тут люба...
Заўтра іх у вішнёвы вечар
На Украіне Дняпро прыгалубіць.

Ой, Дняпро!
Хлапец сінябровы!
Буду я аб тым што і ты, пець...
Бо кахаеш ты нашы дубровы
І яе —
Сінярусую Прыпяць.

Ой, як моцна абнімуцца й шчыра
У краіне прыгожай, блакітнай...
Шлях, што далей —
Шырай і шырай
У стэповых прасторах раскінуты.

Ой, Дняпро!
Прыгалубі, мілы,
Сінярусую дзеўчыну Прыпяць,
Хутчэй сонца
Агнёвымі крыллямі
Зможа слёзы балота выпіць.

Я плыву...
І плывуць летуценні...
Іх ніхто не пасмее стрымаць...
Рэчкі твар
Цалавалі цені,
Як дзіцятка цалуе маці.

А дубы
Шапацелі нясмела,
Нібы слухалі мудрае веча...

Па-над рэчкай
Туманам белым
Спаць лажыўся
Ружовы вечар.
Толькі хвалямі,
Хваля за хваляй,
Калыхала пяшчотна Прыпяць...
Там —
Дзе сонца агнёвымі крыллямі
Хоча слёзы балота выпіць.

*1926*

## ЗІМА

Я ведаю,
Што хутка першы снег
Убеліць той палац,
Дзе распрануліся прыгожыя бярозы,
І возера,
Дзе я на чоўне ехаў,
Зіма сярдзітая
Надоўга замарозіць.

Мне дзіўна так,
Чаму люблю зіму я,
Чаму люблю
Сыпучы снег — пуховую пасцель.
Ой, край вясны,
Дзе я цяпер зімую,—
Узімку тут
Расце ўсё і цвіце.

Калі гляджу на лес,
Што пахмурнеў і шэпча
Ад сцюжы зімніх дзён
І снежнай завірухі,—
Здаецца, мудрае
Сабраць ён хоча веча...
І хоча ён,
Каб дум яго
Ніхто не знаў і не падслухаў.

Калі я пагляджу
Прастор акіну снежны,
Каб разгадаць,
Аб чым там свішча вецер,—
Дык чую я
Спеў сумны Белавежы,
Як галасна
Там стогнуць, плачуць дзеці...

О, там зіма!
Там і вясной сцюдзёна,
Ўсе скованы, як рэчкі лёдам...
Вясенняй восені
Чакаюць там штодзённа...
Жыццё бяжыць,
Знікае год за годам.

О, там зіма!
Дні не красуюць маем,
Там край украсілі
Шыпшына і быльнёг...
І толькі галаву
Лес цёмны ўздымае,
Галосяць воўкі там,
Пустэльні дзікай лог.

О цёмны лес,
О лог, палі-даліны,
Прасторы злітыя
Крывёю чорных дзён!
Ваш горды кліч
Ніколі не загіне.
Ён родзіць вам
Прыгожае жыццё.

Я ведаю,
Ваш кліч нясецца рэхай,
Што дзень, то новая
Расце ў лясах пагроза,
Там жыву —
Жыву ўсягды уцехай:
Бунтарскае крыві
Ніхто не замарозіць!

*1926*

## ШЛЯХАМ ЗІМНІМ

Сенажацямі, лясамі
За санямі сані самі
Сцелюць сцежку.
Сцелюць сцілем.
У разгоне белы коні
Сівы грывы
Распусцілі.
Заскрыпелі, зарыпелі
Палазы ў лазе, запелі...
Просты вёрсты
Шляхам зімнім...
А сялянам — ім не зімна
У кажусе...
Коні трусяць
Ў завірусе,
Па замеценаму следу
Едуць, едуць, едуць...
Сіні снег
Сцяжынкі сее,
Усхадзілася завея —
Вее, вее, вее...
І даліна ў белы іней —
Гіне, гіне, гіне...
І не слізка...
Блізка, блізка
Стагі сена...
Чуць прыкметны
Багны, нетры
Ў мітусенні...
Над стагамі
Жэрдзі-вежы...
А палоззі гурбы рэжуць
Падкаванымі нагамі
І мінаюць гай за гаем...
Сівагрывых чутна ржанне...
— Вы — эх! Вы — эх:
Стой!
Прыехалі!
Стажарні!

*1926*

## ПЕСНЯ ПРА ВЯСНУ

Я помню многа вёсен,
І сонцам край убраны...
Была на сэрцы восень,—
Імглістасць і туманы...

Мне быў тады нямілы
Вясны зялёны дзень,
І птушак пералівы,
І шумных вод струмень.

Мне погляду не песціў
Прастор палёў, блакіт,
Калі я слухаў песні,—
Спявалі іх ракіты.

Не раз сівога бору
Я сумны шопат чуў...
Аб тым жыцці і горы
Ніколі не шапчу.

Я помню многа вёсен...
Імглістасць і туманы...
Замест вясны — увосень
Быў сонцам край убраны.

У сэрцы радасць песні...
Знік вечны сум і жаль...
Вясёлы погляд песціць
Блакітна-сіня даль.

Мільгаюць дні за днямі...
Адну я помню восень,
Як зорамі-агнямі
Жыццё ўсё залілося.

Казаць аб днях мінулых
Не буду ў гэты дзень,
Калі з нячутным гулам
Вясна да нас ідзе.

Вяслуюць год за годам,
А праплыло іх восем...

Вялікім, знаць, паходам
Прайшла калісьці восень.

Плыць далей — хваціць вёсел,—
Не спыніць ветравей...
Так пройдзе многа вёсен —
Адна другой навей.

*1926*

## ПЕСНЯ

Эх ты, песня-песенька,
Зрушыш сэрца волата,
А не тым, што весела
Сыплюць словы золатам.

Крыўды шмат рассеяна,
Крыўдай свет замучаны...
Сёння я асмеяны,
Сёння я засмучаны.

Сыплюць словы золатам,
Ў сэрца жалам колюцца...
Ад цяпла мне холадна,
Дума — ты нявольніца.

Праўду плачаш песняю,
Слова кажаш мудрае...
Што ж ты не пацешыш нас,
Сонца златакудрае?

Ты плывеш дарогаю,
Там, дзе шыр блакітная,
Кпін не чуеш ворага,—
Я табе завідую.

Але сонца промнямі
Зоры затуманіла...
На зямлі сягоння мы
Свецім зоркай ранняю.

На цябе, о сонейка,
З матыгой не сунуцца,—

Мая ж песня звонкая
Чуе кпіны вуліцы.

Сыплюць словы ласкавы,
Ў сэрца жалам колюцца...
Адкажу я казкаю:
Пройдзе ўсё, загоіцца...

Шмат хто нездаволены
Маёй песняй-думаю,
А я песняй вольнаю
Гэта ўсё раздумаю.

Пташка песняй ранняю
Будзіць лес азелены...
Ў сэрца я паранены,
Вольны птах падстрэлены.

Але песні гучныя,
Нашы песні — вольніца...
Нашто быць засмучаным,—
Пройдзе ўсё, загоіцца.

Сёння радасць плёскае,
Ў сэрцы песні — воля там...
Хай жа людзі жорсткія
Сыплюць словы золатам.

У жыцці ўсё вынесу,
Мне не страшны ворагі,
Песняй радасць выплесну,—
Ўсё, што сэрцу дорага.

Гэй вы, песні-песенькі,
Мной вы не асуджаны...
Ветрам вы разнесены
Па краіне ўзбуджанай.

Гэй вы, песні-песенькі,
Майго сэрца вольніца...
Нашто быць засмучаным,—
Пройдзе ўсё, загоіцца.

*1926*

## ЗАСПЯВАЙ БЫЛЛЁМ, МЯЖА...

Спі, сыночак, вечар блізка —
Мне палоску трэба жаць.
Вецер, гушкай ты калыску,
Заспявай быллём, мяжа...

Шчэ не час спачыць ад працы,
Хоць ад поту твар мой змок,
Буду з мілым забаўляцца,
Як зямлю агорне змрок.

Спі, саколік мой прыгожы,
Ой, як цяжка, цяжка мне...
Тваёй маме хто паможа,
Што адна палоску жне?

Тата твой ваюе з панам,
Каб няволі больш не знаць...
Вырасцеш ты стройным станам —
Пойдзеш сам ў Чырвону рацъ.

Спі, мой коцік, закрый вочкі,
Больш люляць не маю сіл...
Дзень бяжыць і хутка ночка...
Зоркі сеюць небасхіл.

Вецер, гушкай ты калыску.
Заспявай быллём, мяжа.
Спі, сыночак, вечар блізка —
Мне палоску трэба жаць...

*1926*

## Я МАЛАДЫ...

. . . . . . . .

Я малады...
У сэрцы кроў струменіць,
І сілай творчаю
Істота ўся гарыць...

Але шмат хворых ёсць
У нашым пакаленні,
Што квола поўзаюць
Пад промнямі зары.

Гляджу на іх,—
Плыве за думай дума:
«Куды нясе іх
Вецер-сухавей?»
І падаюць яны,
Як ліст пажоўклы дуба,
Калі ўсё дрэва так
Прыгожа кудравее.

Я чую плач і сум...
Стаяць на раздарожжы
І шапкай мерацца
Прастору сінь залатаць...
І веру страцілі
(На што гэта пахожа?!),
Што шлях свой барацьбы
Прайсці не зможа
Мужыцкі лапаць.

Глядзяць яны:
Здаецца, ўсюды пуста,
Здаецца ім —
Пабеглі дні назад...
Бо ловіць погляд іх
Ліхіх людзей распусту,
І п'яны рэстаран,
І ночы блудны сад.

Ну, а чаму ж
Не паглядзець вам далей,
Не паглядзець туды,
Дзе творчых сіл агонь,
Не бачыць тых,
Што новых дзён скрыжалі
Мільёны рук
Надпісваюць сягоння?..

Ці помніце,
Хто выйшаў з сутарэння

І вежу светлую
Будуе ў гэты дзень?
О маладое
Наша пакаленне,
Не снуйце вы
Пад сонцам,
Нібы цені.

І ў песнях я
Чытаю часам роспач,
Як бы свой лёс
Пясняр на струнах плача...
На раздарожжы ён
І дні, і ночы,
Нібы свой шлях
Ён страціў —
Не іначай!

О мой сабрат,
Знайдзі ты чалавека,
Калі яго
Чамусьці ты згубіў...
У нашы дні,—
Дні залатога века,—
Ты чалавек!..
І чалавек
Змагання й барацьбы.

Мой мілы край,
Спрадвеку ў сумных спевах
І ў казах жудасных
Народ твой з роду ў род,
Толькі цяпер,
Як сціхнулі завеі,
Ты скончыш свой,
Вялікі свой паход!

Я і хачу,
Йдучы з табой ў паходзе,
Не сумаваць,
Не плакаць,
Не стагнаць!
Красуй, мой край,

Бо сонца не заходзіць,
Дзе балаты твае,
І сенажаць,
І гаці.
Я шлях знайшоў,
Я слаўлю песняй радасць,
І песні я
Складаю ў сэрцы тон...
Я ведаю — даўно,
Даўно пара даць
Паэтам маладым
Дзён нашых перазвон.

О Беларусь!
Ты ўзросціш пакаленне
Сваёй змагарніцкай
І вольнае пары!..

. . . . . . . . . . .

Я малады...
У сэрцы кроў струменіць,
І сілай творчаю
Істота ўся гарыць!..

*1926*

## ВЯСНА І ДЗЯЎЧЫНА

Кожнай вясне
Кожная дзяўчына рада,
Бо вясна сум дзяўчыне рассее,
Не паслухае сэрца парады.

Знаю вясну,
Знаю адну дзяўчыну,
Калі сум ў яе сэрцы заснуў,
Як змораны хтось ў адпачынак.

Той вясною дзяўчына чакала,
Што з паходу каханак прыйдзе,
Вясну радасна так загукала,
А каханка... забіў якісь злыдзень.

Дзень вясновы жальбы не развее,
Пакуль ёсць войнаў дзікіх пагрозы...
І пабачыў вясной на траве я
Не расу, а дзяўчыны той слёзы.

Ты не плач, толькі помні аб гэтым...
Ты не траць ні надзей, ні красы.
Час ідзе — я узрокам паэта
Слёз не бачу, а каплі вясенняй расы.

*1928*

## НА НОВАЙ ЗЯМЛІ

*Я зноў, дзе поле каласамі*
*Свайму паэту шле паклон...*

1

Здарова, хлопцы! Як жывецца?
Не спазнаю сваёй радзімы...
Дзе ж лес шумлівы з лёгкім веццем,
Куды ў грыбы калісь хадзілі?

А вёска дзе, што там за грэбляй
Была ахілена ракітай,
Што ворага калісь не стрэльбай —
Пужала саматканай світай?

А поле, поле. Шыр бясконца.
Куды ж дзяваліся ўсе межы?
Ўсё нова тут, пад новым сонцам,
Ўсё для мяне тут нова, свежа...

Балоты, бачу, асушылі,
Што сінім слаліся туманам...
Якая рацць, якая сіла,
З якім прайшла тут атаманам?

І трактар, чую я, стракоча
Вось там, за ўзгоркам у даліне...
Няўжо ж сказаць хто не захоча:
«Люблю цябе, мая краіна».

2

Здароў, паэт! Здароў, зямляк наш!
Цябе вітаць заўсёды рады...
Не спазнаеш сваіх землянак...
Скуль к нам? З Масквы ці Ленінграда?..

Ах, толькі з Мінска. Знаем, знаем.
Што там чуваць? Ці жыць цікава?
Мы чулі — Мінск звініць трамваем...
Для нас таксама гэта — слава.

Будынкі новыя, заводы —
То ж сіла горада і наша...
Вось толькі б не парушыць згоды,—
Кітай вайною штосьці страшыць...

Ды толькі мы не палахлівы,
Хто нам не слаў сваёй пагрозы...
А мы — будуем калектывы,—
Такі у нас мужычы розум.

Мы ведаем, што вораг хоча
Прынесці зноў нам шмат урону...
Калі жыццё наперад крочыць —
Не трэба лепшай абароны.

3

Зямля, зямля. О, колькі моцы
Захоўвалі твае глыбіны...
О землякі мае вы, хлопцы,
Узняць вы гэту моц павінны.

А горад? — горад вам паможа,
Рабочых рук і там мільёны...
Жыццё мы разам упрыгожым,
Хоць цяжка нам усім сягоння.

О, радасць дзён! Сустрэчы радасць,
Ўсё апісаць хто словы знойдзе...
Такая ж для мяне прынаднасць
На кожнай фабрыцы й заводзе.

Цяпер жывём мы іншым светам,
Цяпер інакш спяваць хачу я...
Той можа зваць сябе паэтам,
Хто нашых дзён жыццё адчуе.

Я рад, што думкі ўдаль занеслі,
Не чую плачу хат пад клёнам.
Цяпер спяваць я буду песні —
Магутным трактарным калонам.

*1929*

## Я ЎСПАМІНАЮ ГОД ДВАЦЦАТЫ

### (ДА ДНЯ ВЫЗВАЛЕННЯ)

Я ўспамінаю год дваццаты:
Плылі крывёю ўсе дарогі,
Быў сцяг над Беларуссю ўзняты,—
Сцяг бальшавіцкай перамогі...

Ліпнёвы дзень. Вайны пажары
Ў крыві людской даўно пагаслі...
Дзе панскія былі абшары —
Квітнеюць з кожным днём калгасы.

Ударны тэмп. Працуюць шпарка
Сям'ёю дружнай калектывы...
У полі трактар і жняярка
Ні для каго цяпер не дзіва.

А казкаю было нядаўна
Такі развой, такія штукі...
Сягоння мараць аб камбайне,
Аб лепшых выніках навукі.

Чытальні-хаты, яслі, клубы
Замест карчмы і гульняў дзікіх...
Няхай ліпнёвы дзень галубіць
Вольны прастор зямлі вялікай.

Савецкі край. Ты мілы сэрцу,
Да працы ты даеш натхненне.

Я жыць хачу, а не памерці,
Каб радасць несці пакаленню.

А вораг пільна, пільна сочыць.
За кожным нашым смелым крокам
Ён сочыць днём, ён сочыць ноччу,
І блізка ёсць ён і далёка.

Таму і мы заўжды на варце
Павінны быць сваёй краіны...
Шчыльней ў рады з рабочым станьце,—
Мы з гэтай сілай — не загінем.

Ні інтэрвенты, ні блакады
І ні паводка слоў хлуслівых
Савецкага не зрушыць ладу,
Бо наша моц — моц калектыву.

Ліпнёвы дзень. Шапоча жыта...
А сенажаць звініць касілкай...
Жыццё, жыццё, хутчэй скажы ты,
Ці люд працоўны — не асілкі?

Далёка рэчка ўецца йстужкай,
Там сход калгаснікаў ля млына...
Да іх хачу ляцець я птушкай
Праз лес, і горы, і даліны.

Скажу я ім: таму вы верце,
Хто не гандляр сваім сумленнем...
Хачу я жыць, а не памерці,
Каб радасць несці пакаленню.

*1931*

## ПАЭМА ПРА МІКОЛУ СІНІЦЫНА

Быў пастухом,
Мазыршчыны балоты
Ён мераў лапцямі
Удоўж і папярок...
Не раз пакрыўджаным

Ён начаваў пад плотам,
Любіў адно:
Палескай ночы змрок.

Сінь вышыні
І мігаценне зораў,
Як многа дум
Навейвалі Міколе...
Чуў ад людзей,
Што ёсць далёка горад,
Каб быць у ім —
Не марыў ён ніколі.

Такі ўжо лёс,
Як і бацькам — батрачыць,
Перад багатымі
Гнуць спіну, біць паклон...
Але жыццё
Вірліць пайшло іначай
І старадаўшчыну
Забрала у палон.

Вайна — вайне.
Другой вайны пачатак.
Ў шаснаццаць год
Наш партызан Мікола
Чырвоным гнаў
Адкормны панскі статак...
Мазыршчына...
Лясы, балоты, поле...

Ён партызан
І бойкі і адважны.
Знаём яму
Тут кожны лог і кусцік...
Вядзе атрад,—
Паслухае, прыляжа...
А ворага — жыўём ён не адпусціць.

Мінулі дні.
Ён камандзір чырвоны,
Наган ў руках,
У кішэні партбілет...

Не страшна смерць
Свабоду хто бароніць,
Будуе хто
Нязнаны новы свет.

Два разы ранен
На калчакоўскім фронце,
Чырвоны сцяг
У бойцы за Кранштат...
Заўжды наперадзе
Быў у сваёй ёй роце,—
Для рэвалюцыі
Надзейны быў салдат.
Франты прайшоў,
А сіла ўсё ж не гасне,
У бойцы класавай
Наносіць метка ўдар...
Не так даўно
Спаткаў яго ў калгасе...
Ён старшыня —
Найлепшы гаспадар.

І сакратар
Калгаснае ячэйкі,
Якому фронт
Таксама сёння сніцца,
Гаворыць мне:
«Ты не знаём яшчэ з кім,
Вось старшыня,
Таварыш наш — Сініцын».

Ружовы твар,
Шрам тонкі над брывёю,
А зірк вачэй
Наўкол маланкай скача...
Ціха сказаў:
«І тут браць трэба з боем,
Каб найхутчэй
Расправіцца з кулаччам».
Здаецца, ўсё
Наладжана не дрэнна:
Машыны, трактары,
Калгаснікі — на яць.

А вораг ўсё ж такі не дрэмле.
Не тут, дык там —
А зуб яго відаць.

На здзельшчыну
Калгас наш пераведзен...
Здаволены,
Аб гэтым што казаць,
Працуе кожны
Сілаю мядзведзя...
На сходзе часам
Здарыцца буза.

А хто бузіць?
Бывае і бядноты...
Дзіўлюся,
У чым жа тут прычына?
Глыбей зірнеш —
Кулацкая работа...
Ох, ёсць ваўкі,
Прыкрытыя аўчынай.

Люблю прастор,
Зялёную шыр поля
І працу дружную
Людскога калектыву...
Пылае радасцю
Ружовы твар Міколы,
І адчуваецца,
Як ён і тут шчаслівы.

Мы змоўклі ўсе...
Над полем слаўся вечар...
Ды песня звонкая
Чуваць была дзяўчыны...
А рэйкі звон,
Нібы калісь на веча,
Склікаў калгаснікаў
Дахаты — на спачынак.

Калгасніцы
Сустрэлі нас ля гаю,
Шчабечуць птушкамі:

«Таварышок, Мікола,
Бач, здзельшчына
Сапраўды памагае,—
Працуюць ўсе
І лепш і болей».

І звонкі смех,
І гутаркі, і песні,
Як бы не быў
І цяжкай працы дзень...
Мікола з гордасцю
У шэрагах іх цесных,
Як камандарм,
З пабеднай бойкі йдзе.

А вечарам
Ідзе нарад на заўтра...
Ну, вось цяпер
Пара і для спачынку...
Дзе скарб калгаснікаў —
Пастаўлена ўжо варта...
Мікола йдзе
Пазабаўляцца з сынам...

Чарнявы сын
Параскідае цацкі,
На рукі просіцца,
Ну, і пайшла гульня.
— Глядзі, сынок,
Расці на змену бацькі,
Лажыся спаць,
А мама палюляе.

Аб справах зноў
Заўюцца думкі роем,
А сэрца стукае
Усяму жыццю у тахт...
Вось прыклад вам
Калгасніка героя,
Ён быў і ёсць
Герой на ўсіх франтах.

*1931*

## НА ВАРЦЕ

Мы паэты — матросы лінкора,
Што плыве да сусветнай прыстані...
Хай хвалюецца, пеніцца мора,
На варце Кастрычніка выстаім.

Мы пяём аб людзях і жалезе,
Калі думкі ўзвіваюцца роем,
Знаем мы, што і паэзія
Барацьбы нашай класавай — зброя.

Таму кожнае палкае слова
Ў спеў завіць трэба шчыра, сумленна,
І ў бойку заўжды быць гатовым,
Каб не ганьбіла нас пакаленне.

Быць павінны адважнымі, стойкімі,
Шквал за шквалам рашуча бяром:
Рабочы — магутнаю стройкаю,
А паэт — сваім вострым пяром.

Камунізм — наша светлая прыстань,
Мы плывём ў хвалях бурных жыцця...
Кроў у жылах ніколі не выстыне,
Калі ў сэрцы чырвоны сцяг.

*1931*

# ПАЭМЫ

## БОСЫЯ НА ВОГНІШЧЫ

### 1

Вайна і пажар...
На вогнішчы людзі
Жывуць босымі.
— Няўжо ж гэтак і будзе?
Свой уласны дар
У чужых просім мы?
Працуй — на пана,
Працуй — на падпанка.
 Жыць стала пагана.
А тут яшчэ з самага ранку
Усякі чорт лезе ў балота.
 Ну і ёсць жа людзям ахвота?
Крыжам бы іх — каля плота,
 Ды — трах!
 Які тут страх?!
 А ты маўчыш,
Цягнучы сам цяжкі крыж.
Крыжамі ўставілі поле,
Пад крыжамі — магілы.
Шлях класці да Волі
У людзей няма сілы.
 — Эх, жыві, як папала...
 А для жыцця мала
 Аднаго толькі хлеба.
Пагуляць бы, душу адвясці!..
 Эх!.. пусці!!!
На ўсходзе зардзелася неба:
Нібы золата, падаюць косы...
На зямлі... агнявыя палосы,—
 Дзень новы, новыя ночы,

Век новы: агню, дыму, попелу...
Будзе шмат каму горача,
Нам толькі цёпла,
Дармо, што мы босыя!

2

— Пажар на Усходзе!
Таварышы, ур-р-ра!
— Што вы, шалёныя, годзе!
Што вам не шкода дабра?
Усё, што збіралі вякамі,
Сёння марнее ў агні...
— Маўчы! Мы цябе кулакамі,
Чуеш? Ні-ні!
Цэрквы, палацы, харомы —
Памяць мінулага — з дымам!
Што не запалім мы — зломім!
Знізу наверх ўсё падымем!
Страшна вам? страшна?
Пажару агонь ломіць вочы?
Затое нам відна ўночы...
Не ліце крыві — не пагасне.
Маліцеся, грэшныя, небу,
Рукі ўгору узняўшы,
Вас не паслухаюць хмары.
Таварышы!
Што нам трэба?
— Пажа-ары!

3

І пылае мур струхнелы,
Іскры скачуць па страсе.
Раптам вецер, вецер смелы,
Крыж чырвоны нам нясе.

— Адным крыжам будзе болей,—
Шэпча змучаны народ...
На крыжы чытаюць «Воля».
— Братцы! Гляньце на Усход!

То ж агонь, агонь збавення
Нам нясе Чырвоны Крыж.

— Братцы, песню вызвалення!
Люд гаротны, што маўчыш?

Паняслася песня волі
Між лясоў густых, балот...
І аб лепшай вольнай долі
Стаў ля рэчкі пець чарот.

4

Крыжы... курганы на балоце...
Зарослыя дзёрнам магілы —
Усё ў вогненнай зноў пазалоце:
Бушуюць дзве страшныя сілы,—

Змагаюцца *праца з багаццем:*
Свет новы жыццё ўтварае.
Зышліся дзве моцныя раці,
І праўда няпраўду змагае.

Глядзяць, пацяшаюцца людзі,
Зюзюкаюць бабы пацiху:
— Цяпер мо і нам добра будзе?
Забудзем бяду ўсю і ліха!

Баіцца наш пан-непаседа,
Нябось яго кончыцца песня!
— Не будзем больш мець дармаеда,
Да працы сам пойдзе, аж трэсне!

5

— Стойце, хлопцы! будзь на месцы!
Не кідайце на бяду...
— А казаў паганы ў Брэсце,
Што вайною не пайду...
А цяпер — глядзі!.. Ну, дзіва?!
Пачакайце... як жа нас?
— К вам мы прыйдзем, прыйдзем жыва,
А цяпер мы: раз! — два!! — раз!!!

Пры запаленых будынках
Чуем плач мы беднаты...

— Дзе ж цяпер шукаць прыцынку?
Ці даваць мо ла-та-ты?

Пан з падпанкамі рагоча,
Гладзіць тоўсты свой жывот
І пад нос сабе бармоча:
— Йдзе Хвядот, але не тот!..

6

Над палямі Белай Русі
Стогне віхар-бура...
— Зноў прыйшлі дзянькі прымусу,—
Шэпча люд пануры.

Арол чорны ўецца ў высі,
Крыллямі махае.
Над пахілымі крыжамі
Песню напявае;

Чуе пах сваёй ахвяры,
Когці распраўляе,
Ўніз спусціцца — там пажары,
Дымам павявае.

І змагацца стаў угоры
З бураю мяцежнай...
Рэжа крыллямі узоры
Ў небе чарнаснежным.

7

А на зямлі — даждаліся раю:
Старыя лады і манеры,
У пагонах ідуць афіцэры...
— Упакой раба Мікалая...
— Аляксея на многія лета...
Босыя кажуць:
— Што гэта?
З кукардай, акуляры на нос,
Чыноўнік на скверы гуляе...
Ў кішэні няма папярос,—
Мусіць, шмат зарабляе?
На Захараўскай вуліцы
Дзень як уздзене чорны халат,

Толькі песня чуваць блудніцы:
— Палюбі ты хоць трошкі, камрад,
А босыя ходзяць па попелу,
На Ўсход пазіраюць з надзеяй:
— Покуль што нам яшчэ цёпла,
Але мы вам ўспомнім,
Зладзеі!..

8

Бура страшная вырвала пер'я
Арлу чорнаму ў высі...
— Зямля! ах, зямля, цяпер я
Ўніз паляту — сцеражыся!..
І рэха адклікнулася: «Ах!..»
Буржуі крычаць: «Які страх!
Вось цяпер нам будзе скок...»
Дружна, роўна, крок у крок
Ідуць чырвоныя палкі,
І чуваць напеў стары:
— Эх, сякі-такі,
Чорт вас пабяры!..
Босыя спаткалі іх:
Гоман, жарты, крык...
— Туды бег, назад прыехаў,
Бач ты, бальшавік!

9

Босым дарогу!
Поп, памаліўшыся богу,
З цэркві ідзе па завулку:
— «О времена ныне...»
А ў разбітай вітрыне
Спекулянт шукае булку.
Чыноўнік казённай палаты
Скінуў парадны сурдут...
Бурчыць пад нос: «Праклятыя!
Зноў яны тут!»
Паны за граніцу
Давай бог ногі...
Гром... навальніца...
Б-о-с-ы-м д-а-р-о-г-у!..
Паўцякалі? Ну, так што ж!

На вогнішчы, басанож,
Пагуляем... Эх, глядзі!
Бедната ўся, выхадзі!
Ўчора там — а сёння тут...
Буржуазіі капут!
Зноў гуляем на балоце!
Ў войска, братцы,— па ахвоце...
Ухапіўшы сваю частку,
Расчынілі людзі пастку:
— Вой, вой, вой!
Будзе бой!..

10

Чырвоным завешаны вуліцы,
Вокны, балконы і плот,
Белы дом толькі журыцца:
Не йдуць туды на сход...
Чытаюць адны пацеры,—
У бога пытаюць, як быць?..
А босыя на сабранні
Пасылаюць к... мацеры...
Пану даволі служыць —
Вось наша заданне!
— А як жа?
Кім будзем звацца?
Як жа будзе вось гэта ды тое?
— Давайце ўсе разам змагацца,
Пакуль не знішчым старое!..
Замоўклі яны,— ні слова.
Чакаюць другога адказу...
Толькі шэпчуць, стуліўшы галовы:
— Паслаў бог бальшавіцкую заразу.
Зноў мы безгалосыя,
І цярпі, як сабака шалёны:
Ўласць усю забралі босыя,
А іх тут — мільёны!

11

Не ціхне бура. Стогне лес...
На ўсе лады віхура свішча!..
Лясун стары к русалкам злез
Спраўляць над возерам ігрышча.

Чырвоны колер ціхіх хваль...
У іх відаць адбітак неба,
І з тых краёў, дзе смерць і баль,
Руччы крывавыя шле глеба.

Русалкі скачуць з лесуном.
Музыка грае — «бух ды бразь!»
І вось, хто спаў адвечным сном,—
Усплыў над возерам — «сам князь!»

Не далі спаць. Вайна, агонь
Руйнуе ўсю яго краіну.
Пад ім стаяць не хоча конь.
І кліча князь сваю дружыну...

Русалак рогат. Ночы ціш...
Пужаюць князя над вадою...
Адказ чуваць: «Чаго крычыш?
Твая дружына там, з табою».

— А дзе паслухны мой народ?
Ён за мяне у бойцы ляжа!..
І чуе шум крывавых вод:
— Цяпер ён сам сабою княжыць!

І злосна князь рвануў каня,
Падняў уверх пярэдні ногі,—
На ўсход зірнуў, дзе золак дня,
Дзе кроўю змочаны дарогі...

Вось чуе раптам — «бух ды бразь!»
У саму поўнач ціхай ночы...
І зноў паплыў на дно наш князь,
Закрыўшы шлемам твар і вочы.

Блакітна-белы князя цень
Заслаў ўсё возера туманам,
І ходзяць хвалі ноч і дзень,
Шумяць і вечарам і рана.

Лясун, русалкі там рагочуць,
К сабе ўсіх маняць, кажуць: «Глянь!»
У вадзе чырвонай шмат хто хоча
Уночы бачыць князя здань.

12

На вогнішчы стала пячы.
На вуліцы вецер... бура...
— Трэба ўцячы,
Каб была цэлая скура.
— А мы, босыя, адступаем...
Не дадзім ахвотаю
Новай зямлі!
Таварышы, страляем!
Ротаю!..
Плі!..
Разлягаецца грук...
Чорны жук
І павук
Сядзяць у падвале, слухаюць,
Баяцца выткнуць жывот,
Дзеці сабачыя!
Босыя патыліцы чухаюць,
Пазіраюць праз плот,
У кулак плачуць:
— Бач, нашы паўцякалі,
Куды дзявацца нам?
Зноў служыць панам
Мы прычакалі?..
Людзей мала на вуліцы.
Ноч прыйшла, горад — пустка,
Толькі новы крык чуецца:
«Пшэ-пу-устка»!!!

13

Застагналі вёскі і сёлы...
Брычка стаіць ля святлічкі.
А народ схаваўся ў касцёлы:
Моліцца, чытае кантычкі...
«Бэндзь, люд спанялы...»
На шапку «ожал бялы»,—
Блішчаць гузікі,—
Чыноўнік зноў на скверы
Лушчыць гарбузікі,
Думае, якой ён веры?
— Ах, халеры!

Каб дастаць работу,
Пытаюць, хто ты?
А босым — холадна...
Абутым — голадна...
Жыць не ахвота.

14

Над балотамі дыміцца —
Згас агонь.
А па вогнішчы імчыцца
Белы конь.
Скача ўлева, скача ўправа —
Не стрымаць.
Захацеў улан на славу
Пагуляць.
Расступіся, свет, дарога —
Аднаму!
«За айчызну і за бога».
Што яму?!
Яго сіла, яго права,
Ёсць бізун...
Скача ўлева, скача ўправа
Конь-скакун.
Гэй, ляці, але дзяржыся,
Злы яздок,
Без пары не праваліся
У масток.
На вадзе ляжыць мост новы,
На агні.
Не праедзеш ты дубровы —
Пагані?!
Усхадзіўся лес шумлівы,—
Вые воўк.
Конь спаткнуўся палахлівы.
Стой, яздок!
На балоце і на полі
Зноў агні.
Не гуляць табе тут болей —
Павярні!

15

Вёскі і гарады
Дымам спавіты
Днём.
Ўночы глянеш куды —
Неба абліта
Агнём.
Слёзы... кроў на траве...
Як у магіле
Спіш.
— Бач, чырвоны плыве
Па небасхілу
Крыж.
Цёпла, і груганы
Ўсе на чужыне...
Эх!
Чуеш гоман? Яны!
Леташні гіне
Снег.
Нам не шкода: бяры
Стужы зімовай
Цень.
Крыж! Ты стань на гары:
Радзі нам новы
Дзень!

16

На вогнішчы басанож,
У руках вінтоўка, нож...

Здабываць галодным славу:
«Даёш Варшаву?!»

— Нам не трэба гарады:
Волі сцяг нясём туды,

Іскры гонім мы пажару.
Смялей ударым!

«Нам дарогу — уцякай!»
Чуваць крыкі: а-я-яй!..

Бач, улан астатні едзе:
«Ах, цо то бэндзе?..»

А чырвоныя ідуць,
Песні волі зноў пяюць,

Адусюль бягуць к ім людзі:
— Нам цёпла будзе!

17

Замоўклі песні грознай сілы...
Адкуль прыйшлі? хто яны?
Што рвуць няволі кайданы
І сыплюць свежыя магілы?..

Яны — байцы вялікай раці.
Іх хата там, дзе ёсць прастор.
Няволя, крыўда — вось іх маці!
Ідуць яны да сонца й зор.

За імі йдзе, хто голы, босы,
Ў пакуце жыў хто цэлы век...
Дарогу чорны снег заносіць —
Загінуць можа чалавек.

— Загінуць? Што ж! На той магіле,
Якая зможа прыгарнуць,
Вясною ранняй урадлівай
Прыгожа кветкі зацвітуць.

Прывабіць колер іх чырвоны
Схіліць калені над пяском
Таго, хто шле цяпер праклёны
І вострыць меч на нас тайком.

— Браты, за намі! Кінь маленне,
Хто праўдай жыць не даў зарок...
Смялей!.. Нас будуць біць каменнем.
Мы — нашых вольных дней Прарок.

## 18

Босыя ходзяць па вуліцы.
Тыдзень не елі стравы...
— Жыць будзем — нічога!
Буржуй за вугал туліцца,
Шэпча: «Дрэнныя іх справы...
Дзякуй богу!»
Хмары, дзе заход,
Падняліся...
— Што? зноў непагода?
— Вецер! — крычыць народ,
— Вецер, уздыміся!..
Вецер адказвае: «Згода!»
Хто слабы — дзяржыся.
...Хто рэжа,
Таму не балюча.
Балюча — каго рэжуць.
— Цяжка жыць ваюючы.
Зрабілі межы...
А вецер свішча, гудзе...
Сціхнуць не хоча.
— Гэй, хто там ідзе?
Сцягам белым махае?
Рагоча?!
Вецер, плюнь яму ў вочы!
— Пачакаю!..

## 19

Мы — дзеці краіны,
Дзе бура бушуе...
Мы на прадвечных руінах
Працы палац пабудуем,
Не любяць нас — босых,
Хто век быў абуты...
На нас узіраецца скоса,
Хто, як і мы, быў закуты...
І вы, хто гімны пеў гаротным,
Хто ў цемру слаў жыцця праменні,—
У руках трымаеце каменні
І нас пабілі б ахвотна.

А можа, Чырвань Сонца Волі
Вам асляпіла раптам вочы...
А помніце, як вы кляліся
Братам, сялянам і рабочым,
Што вы не здрадзіце — ніколі?!
Пявун не прапяяў тры краты,
Вы — адракліся...
С у п а с т а т ы!!!
Без вас рацъ наша узрастае,
Рады шчыльнеюць, крэпне дух!
Вы чуйце! Песня не сціхае:
«Паўстань, хто з голаду век пух!..»

20

Бягуць яны... Іх рукі, ногі
У крыві... пякуцца на агні...
Куды бягуць яны дарогай,
Дзе страшна ехаць на кані?
Яны баяцца спатыкнуцца,—
Не ўсякі будзе верны конь...
Хутчэй каня яны нясуцца
З агню ў агонь і праз агонь...
Пакуты крыж чырвоным крыжам
Яны наважылі змагчы...
Што шаг — пабеда бліжай, бліжай,
Іграйце песню, трубачы!
Тру-ру-ру, тра-та-та!
Гэй, за намі, бедната!
На дарозе макрата...
Тру-ру-ру, тра-та-та!
Тухне вогнішча ў крыві,—
Песню іграйце: «дзін-дзі-ві!»
Каго зловіш — разарві,
Хто не наш — таго даві...
Босы хто — за намі ўслед,
Хто ўбогі, хто раздзет...
Гэй, за намі — ў новы свет!...
Цёпла там і там прастор,
Небасхіл там повен зор...
Сонца тчэ жыцця узор!..
Там спачынеш, бедната...
Тру-ру-ру, тра-та-та!

Бягуць яны... Іх ловяць вочы
Золата сонечны прамень,
Які і родзіць з цемры ночы
Вялікай будучыні дзень...
Што шаг — пабеда бліжай, бліжай...
Штандар чырвоны на плячы...
Чым крыж цягнуць — лепш спаць пад
крыжам...
Іграйце песню, трубачы!!!

*1921*

## ЛЕНІН

Было сонца
Затуманена дымам.
На людзей
Гарматы глядзелі
Смерцю дзікай...

А мільёны нявольных
Нястрымана
Ішлі паміраць
Паходам вялікім.

Было поле
Крывёй завільгочана,
Засеяна
Валавяным збожжам —
Вострым градам куляў...

О зоры!
Што вы напрарочылі?..
Калі ўзнімецца
Смерці разгулле?..

О неба!
Ці хутка загасне
Узняты
Вайной непатрэбнай
Вялікі пажар?
Ці хутка

Дні хмурыя
Зменяцца яснымі?
А людзі
У новым паходзе —
За волю —
Рашучае скажуць:
— Даволі!

. . . . . . .

Чуцен кліч
Па шырокаму свету...
Паўстаюць
За народам народы...

Будзеш ты,
О зямля, сагрэта
Небывалым агнём
Паходу.

Маўчалі зоры...
Неба маўчала...
Ад зор і неба —
Нямы адказ...

Чырвоным шляхам,
Шляхам узорным
Пайшлі мільёны,
Пайшлі з няволі,—
Агонь адплаты
У іх не згас.
Зноў агнём
І паводкай крывавай
Забушуе прастор,
Загудзе!..

Слава!
Прароку слава!
Што ў паходзе
З нявольнымі разам
Ідзе!..

Ленін!
Ленін!
Ленін!

Фабрыка і завод
Грукоча...
А вёска,
Блакітная вёска,
Нічога не хоча...
— Што нам вызваленне?!
Загнаць бы пана ў дошку!
Зямлі і Волі!
А болей нічога!
Нічога болей!
— Без Леніна ні да парога...
Галосяць гудкі заводаў...

Спаліць!
Усё спаліць
Тысяча дзевяцьсот семнаццаты год...
«Паўстане людскі род»...

1

У вёсцы блакітнай,
Сярод васількоў-калоссяў
Жыве селянін Мікіта...
Лес за акалоцай
Сумна галосіць...
Ад усходу да захаду сонца
Стогне Мікіта,
Мікіта галосіць,
Сіратою ў полі пакінуты...
— Сыны на вайне...
Войскамі поле здратована...
Ну, а мне?
Што рабіць мне?
Паны галаву скруціць гатовы нам...
«Вайна да пабеднага канца»...
На фронт коні і людзі...
А нам?
А нам што будзе?
Мусіць, загінем...
Нічога нам не пакінулі...
Тра-та-та-тах!..
Бух! Бух!

...Айца
І сына...
Святога духа...
Можа, сынкі забіты?..
Тра-та-та-тах!..
Бух! Бух!
Плача Мікіта,
Плача і слухае.

2

Вечар...
Вечар асенні, хмуры...
Дождджык цалуе шыбы.
Вецер пяе-туруе.
— Каб жывыя — прыйшлі бы.

Раптам — стукат у сенцах...
Увайшоў паволі
І кажа:
— Тата! а тата!
Толькі мяне захавала доля...
І павесіў партрэт на сценцы.
Зажмураным вокам
Партрэт аглядае хату...
Нібы то злотная пража —
Снуюцца і свецяць
З камінка
Карчоў праменні...
У Мікіты — ўраз успамінак...
— Сыночак, скажы мне,
Ці жывы ўсе дзеці,
Што ў войска забралі ў жніўні?..
— Загінулі двое... там... далёка...
А мяне прасцяроґ — вось гэты...
Плечы яго не ў палетах...,
Завуць яго Ленін!
Ён збавіў ад смерці...
Шануй яго, тата!..
Насі, як і я,
Імя яго у сэрцы!
Зажмураным вокам
Партрэт аглядае хату...

— Ты тут... тыя забіты... далёка...
Насіць яго імя ў сэрцы...
Мікіта тварам к сценцы
Стаў на калені
І шэпча:
— Ленін... Ленін...

3

«Вайна да пабеднага канца»...
А з балкона Кшэсінскай палаца,
Дзе рабочых галодная раць,
Нясуцца Леніна словы:
«Без вайны,
Без вайны змагацца!
Хто за вайну —
расстраляць!..
Гэта першая пастанова...
Ваяваць мы іначай хочам!..
        Таварышы рабочыя
        і сяляне!
Мы разам паўстанем!..
Пойдзем фронтам,
Фронтам адзіным!..
Не траціць ні адной гадзіны!»
Міколы іскрацца вочы,
Як толькі гляне
на балкон, на Леніна,
На фігуру гранітнага воску...
Ўспамінае загоны-паясы,
Дзірван, каменне,
Балоты, лясы...
Ўспамінае родную вёску,
Панскі здзек і прыгоны...
        Але сягоння —
Гэта толькі сон...
Сон аб акцябрскай славе...
Бы прыйшоў да бацькі ў госці,
Пад партрэтам на лаве
        спіць ён...
Але не спіцца яму чагосьці...

4

І толькі зірнула раніца.
Мікола шынельку латае...
А Мікіта
З Леніным раіцца,
Пытае не хітра,
Як шчасце здабыць
Мужыку.
— Тата! а тата!
Вось табе сына руку:
Заветы яго —
Калі выпаўнім —
Будзе воля нам,
Будзе зямліца!
У Мікіты слёзы выплылі...
А Ленін здаволены
На Міколу глядзіцца...
І з закуранай
Сялянскай хаты,
Пад поглядам
Са сцяны партрэта,
Мікола сабраўся ў салдаты
У войска на пятае лета.
Цяпер хата не плакала
Комінам,
Не расіліся слёзы са стрэх...
Сумна бацьку...
Шкада, як нікому,
Што сынок
Гэтак мала пацешыў.
Эх, сыночку!
Пабыў толькі ночку,
Толькі ўспомніў
Памёршую маму...
Расказаў сваю мне праграму...
Як след не спачыў —
І ў дарогу...
Хоць бы тры дзянькі...
Слухае сын словы,
Сам жа ўжо гатовы...
У лапці абуў ён ногі...
Аборы з пянькі...

Торбу закінуў на плечы...
— Пастой! засланю хіба печ,
Каб шчасце было ў падарожжы.
— Ленін, Ленін паможа! —
І Мікола схіліў калені...
Бляскам
Цудоўным
Святлела
Восені
Соннае
Ранне.
А Ленін,
Са сцяны задуменны Ленін,
Поглядам смелым
Благаславіў іх развітанне.

5

Не раз сумаваў па сыну Мікіта,
У госці чакаў штодзянька...
— У засеку больш цяпер жыта,
Бяда — няма вось сынка...
Ці хутка усёй калатніны
Пазбудзецца зайздрасны свет.
Зрабі так,
Каб пачуць хоць пра сына!..
І Мікіта глядзеў на партрэт.
Ведаў бацька,
Што сын камуністы,
Што Мікола у Леніна ўласці.
Не маліўся больш прад прачыстай,
Каб сынку ў барацьбе не прапасці.
І назаўтра —
Ну проста цуда!
Ад сына прынесена вестка:
«Тата!
На заводзе працую...
Шлем паклоны —
Я і нявестка».
Палюбіў Мікіта Леніна,
Палюбіў —
Ну проста да смерці...
І ў той дзень вясёла-вясенні

Пакляўся яму толькі верыць.
І штодня —
Ад працы хоць і занурыцца,
У пасцелі Мікіта раздзеты,
Змрокам моўчкі,
Ад сэрца любуецца
Закурэлым ад дыму партрэтам.

6

Час мінуў...
Сялянскія хаты
Слова Ленін — зрабілі святым,—
Зналі ўсе,
Ён не любіць багатых...
Ён за праўду,
За лёс беднаты.
А Мікіту нібы то смешна,
І Мікіта быў вельмі рад,
Што яму —
Ён паверыў першым,
Калі сына слаў у салдаты,
Калі ў армію
Войск чырвоных
Яго сын пайшоў без прынук,
А цяпер —
Недзе молатам звоніць...
Ёсць нявестка,
Унучка і ўнук.
І не раз
На сходзе вясковым,
Калі бедных зганялі свістам,
Мікіта смела браў слова
І гукаў:
— «Я і мой сын — камуністы...
На бедных свіст гэты...
Таварышы!
Дзе ваша сумленне?!
Багатыя свішчуць —
Ліхая прыкмета!
Таварышы!
Рабіце, як кажа Ленін!»
А часам —

Возьмуць падатак
З беднага —
І возьмуць лішні...
Ломяць рукі людзі,
Галосяць і кажуць:
«Усявышні!»
А Мікіта прыйдзе дахаты,
Ноч усю спаць не ляжа...
На Леніна гляне і скажа:
— Каб ведаў Ленін аб гэтым!
Ну, не прыжду хіба лета,—
Ураз на машыну —
Паеду ў Маскву я да сына...
Можа, цябе там пабачу,—
Табе раскажу усё чыста.
Я — як і ты, як і сын — камуністы!..
Глядзіць на партрэт і плача..

7

Скажа хто —
На колькі часу
Свет пазбыўся калатніны...
Толькі бач:
Пажар той гасне,
Што знішчаў куткі краіны.
І ў блакітных вёсках-сёлах
Новай вольнай Беларусі
Селянін пяе вясёла:
«Не сагнуся так, як гнуўся...
І паноў зямлі абшары
Сам сажну ў свае засекі...
Не затуляць край наш хмары,
Край, што вечна быў у здзеку!»
Але сягоння
Сяляне штось не ў гуморы...
Выйшлі ў поле на загоны,
З імі каморнік...
Пастанову зрабілі учора:
«Не патрэбны межы,
Што хаваюць поле ў быллі...
Няхай лепш разоры»...
— Нам казалі,

Як у войску былі,
Што ўлада панскай зямлі
Прырэжа!..
— Сваёю не ўсе здаволены!..
— Ці ж можна —
Шнуры у тры пядзі?!
— Чакалі!
— Чакаць даволі нам!
— Таварыш каморнік!
У пераглядзе
Павінна быць наша заява!
— Не каморніцка справа,—
Я — толькі мераю....
— Пра зямлю пры цары пелі!
Дзе гэта відна?
— За рэвалюцыю і мы цярпелі —
Ці ж нам не крыўдна?!
— Таварышы!
Давайце хэўраю
Да Леніна напішам ліст...
Бо ён,
Ён камуністы
І заўжды спагадае аб нас.
— Час ужо!
Час
Беднаце даць надзелы!
Не раз і не два
Сялянамі поле галдзела.
Непакоіла вёску братва.
— Даеш надзелы!
— Падзяліць трэба маёнткі,
Каб пан і здалёку
Не мог-такі
На іх вытрашчыць вока!
— Парэзаць усё на палеткі!
— Знішчыць маёнткі
Без глуму!
А мы,
Мы самі зробім
Камуну...
— Не мы — нашы дзеткі!

8

Спавіла вёску вечара ціша:
Замоўк і на вуліцы гоман...
Толькі гутарка хату калыша:
— Паслаць!
— Паслаць за Сымонам!

І дзядуля старэнькі, сівы —
Ён адзін між старых пісьменны —
У будыніку пчол гаманлівых,
Апіраючыся кіем, сяменіць...
— Мы самі аб марнай долі
Напішам да Леніна ў «ноце»...
І выводзіць дрыдача крамзолі...
Не даваць жа пісаць блазноце!
А ў сініх хмарах махоркі,
Нібы зоры,
Блішчаць іх вочы...
Што ў жыцці было іх горкім —
Усё Леніну выкласці хочуць.
Ён паможа ў няшчасці — вераць,
Ён звядзе з непарадкамі квіты...
Раптам
Рыпнулі дзверы,—
Увайшоў вельмі хмурым Мікіта.
— Атрымаў ліст ад сына ўчора...
Сам нічога... і дзеткі здаровы...
Піша ён... аб Леніне... хворы...
Пахіснулі сяляне галовы...
А пяро —
Заскрыпела і змоўкла
На паўслове мужыцкай «ноты»...
Толькі месяц зірнуў пажоўклы
Праз акно
На слёзы бядноты...
— Што ж рабіць?
— Пачакаем троху...
Даць спачынак — здароўю парука,—
А Мікіта паедзе праз год...
На сёмуху...
Завязе ліст у самыя рукі...
А ноч —

Нібы плакала лесам...
Над вёскаю —
Гром забражджаў,
Месяц хмарамі сінь занавесіў...
Закапалі слёзы дажджу.

9

Прыходзіла за весткай вестка
Пад стрэхі сялянскіх хат,
І кожнага сходу павестка
Аб Леніне ставіць даклад.

— Ці дуж?
— Ці не дужы?
— Ці ёсць на паправу надзея?
А Мікіта —
Праліў слёз лужу,
Дзень і ноч на партрэт глядзеў.
І не раз —
Зажмуранае вока
У Мікіты ўздымала дух...
Ён тады —
Ў задуменні глыбокім
Нібы Леніна словы слухаў.
Мікіту здавалася часта,
Што партрэт —
На сценцы гавора,
Што папера —
Словамі шастае,
Як Мікіта кажа пра гора.
І ў адзін зімовы вечар
Мікіта глядзіць Леніну ў вочы...
А за акном —
Плача вецер,
На камінку —
Шугае корч...
Вясёласць —
З вачэй нібы ўпала ўся,
Нібы дыхаць зрабілася трудна...
Мікіту —
Усю ноч не спалася —
Ноч цягнулася вельмі марудна...
— Як пабачыць цябе хачу я,

Не счакаю ніяк вясну...
Нешта сэрца нядобрае чуе,—
Мікіта сказаў і заснуў...
А ў акно
Глядзела раніца,
Невясёлым глядзела тварам...
І сняжынкі
Чамусьці не дражняцца,
Як мароз іх пужае ўдарам.

10

Горад...
Заплаканы горад...
Сёння весткаю
Вёску не радуе...
У бязмежныя далі-прасторы:
«Ленін памёр» —
Нясе радыё.
Лясы, балоты і поле
Заплакалі марш хаўтурны...
— Няма...
Няма яго болей.
Плача народ пануры...
Плача і вёска, плача...
Снег нібы ў жоўтым пяску...
А Мікіта сон бачыць,
Што едзе да сына — ў Маскву.
Толькі прыход суседа
Не даў больш аб слодычы сніць...
— Мікіта... ты, пэўне, не ведаў...
Ленін... сказаў... доўга жыць...
І глядзяць
На партрэт здалёку...
Мікіта ў слёзы ўміг...
А Ленін зажмураным вокам
Жывым пазірае на іх...
— Хай памёр...
Але ў сэрцы нашу я
Яго імя — ён будзе жывым...
Капля слёз на зрэбнай кашулі
Здавалася капляй крыві.
І Мікіта з жалобаю ў сэрцы

Не зводзіў вачэй з партрэта...
— Ці ж можа Ленін памерці?
Не веру,
Не веру я ў гэта...
        А партрэт, які быў
                        задумленны,
Як раней ён —
                і вока жмурыць...
Ніякай няма перамены
У вялікай магутнай натуры.
Ленін...
Ленін...
Ленін...
Галосяць заводы і фабрыкі...
І вёска...
        Блакітная вёска...
Таксама ў жалобных фарбах...
        Ліе за слёзкаю слёзку.
Поле, лясы і курганы
        Глядзяць сіратліва...
Чуецца толькі:
                «Смерць паганая!»
        І зноў маўкліва.
Каменіцы горада
І драўляныя хаты,
Што аб Леніне пялі горда,
Адчуваюць вялікую страту...
Боль адчуваюць
        Усе, як адзін,
Хто жыў яго думамі.
Адвітанне аддаём і мы...
Роўна на пяць хвілін
        Жыццё замірае...
        У магілу
Кладуць неўміручага Леніна.
        Сіла пабядзіла сілу...
Гудкамі адходную граюць
        таму,
Хто прынёс вызваленне...
Над магілай жалобны плакат.
        Чытае пралетарыят:
«Выпаўнім заветы Леніна!»

*1924*

# АПАВЯДАННІ, П'ЕСА, НАРЫС

## ДЗІЎНАЯ ЗАЯВА

### I

Здарылася гэта ў Пятроўку. Была нядзеля. Сонца пачало пячы з самага рання. Уся вёска пацягнулася ў цэркаў.

Стары Апанас Гарбуз хаця і лічыў сябе набожным, але ў цэркаў хадзіў рэдка. Ён больш маліўся дома дзеля таго, што недалюбліваў папоў. «Гаворань у цэркаўцы адно, а робяць зусім другое»,— адказваў ён, калі яго пыталі, чаму не любіць папоў.

Сёння, як заўсёды ў святую нядзельку, пад'еўшы добра бліноў з верашчакаю і вычысціўшы міску беленай заціркі, Гарбуз выйшаў у садок, сеў на лаўцы пад кустом агрэсту і стаў пазіраць на агарод. Ён вельмі дзівіўся, што, нягледзячы на сухую вясну, варыва на градах «шалела».

— Вось толькі агуркі трохі заняпалі, мусіць, апошняя спёка пашкодзіла,— прагаварыў ён сам сабе і пагладзіў рукою па жываце, які ўжо зверху стаў награвацца ад сонца.

У гэты час сусед Мікола Шклянка, ідучы з поля, убачыў, што ў яго агародзе рыецца Гарбузова свіння.

Шклянка быў чалавек сярдзіты. Гэта можна было ўгадаць па тым, што ён заўсёды кусаў свае «каціныя» вусы і жаваў канец барады. Ён мог ні за што ні пра што наваліцца на чалавека, аблаяць яго апошнімі словамі, пасля прасіць прабачэння і ў канцы зноў пачынаць лаяць.

Убачыўшы чужую свінню, Шклянка ўхапіў здаравенны кол каля загарадкі і стаў ганяцца за ёю. Свіння кінулася на Лыску, якога жонка Шклянкі ўспела выпусціць з хаты, пачуўшы голас гаспадара.

— Лыска, кусі! Каб яе ваўкі задушылі! — крычаў нечалавечым голасам Шклянка.

Свіння, не бачачы ратунку, рынулася ў плот, каб выскачыць у свой агарод, але плот быў моцны, і яна, прасадзіўшы галаву, ніяк не магла выцягнуць другой палавіны сваёй асобы.

Шклянка гэтым часам падбег да яе і так аперазаў калом па спіне, што яна [redacted] болю заглушыла піскам усю вёску.

У гэту хвіліну Гарбуз якраз ганяў з лысіны мух. Ён хацеў нешта на іх казаць, але, пачуўшы такі піск, так і астаўся [redacted] расчыненым ротам.

— Божухна! — закрычаў, апамятаўшыся, Гарбуз,— ці не маю Перапалосую хто пачаставаў.

З апошнімі словамі ён пабег на месца крыку.

Свіння так і асталася ляжаць у плоце, а Шклянка растаяў з калом у руках і з пераляку не ведаў што рабіць.

Пабачыўшы Гарбуза, ён хацеў кінуць кол у крапіву, але Гарбуз закрычаў:

— Стой! Стой, каб цябе пярун забіў! Што гэта ты зрабіў? Апошнюю свінку...

— А навошта пускаеш у чужыя грады? Для тваёй свінні сеяў, ці што? Лысая падла! — адказаў Шклянка і пайшоў на свой двор.

— Дык ты думаеш, гэтым усё і скончыцца? — крычаў услед яму Гарбуз.— Я гэтага не дарую! Яшчэ ёсць воласць, суд!..

Пачуўшы гэты крык, Гарбузіха кінула паліцу у печы і выскачыла з чапялою ў руках, забыўшыся, што на гаршках дапякаўся апошні блін.

Яна, даведаўшыся, у чым справа, і пабачыўшы, што Шклянка [redacted] жонкаю раяцца на сваім двары, выбегла на вуліцу і пачала крычаць і клясці іх на чым божы свет стаіць:

— Недавярак! Арыштант! Злодзей! Гэта табе не каноплі Васілёвы цягаць з падсвіронка!.. Каб ты да святога Пятра не дажыў! Каб ты гэтак поўзаў жыватом, як мая свінка поўзае!..

— Годзе! годзе ўжо! — сутрымліваў яе Гарбуз,— пашануй святой нядзелькі.

На гэты крык выскачыла на вуліцу Домна, кума Гарбузіхі. Яна не разбірала, хто і ў чым вінаваты, а

зразу навалілася на жонку Шклянкі і пачала яе лаяць.

— Добра, добра ведаю, што ты за штучка! — крычала Домна.

— А ты не сунь носа, куды не трэба! Ты нічога не бачыла! — агрызнулася жонка Шклянкі.

— Што? — мацней закрычала Домна.— Ты яшчэ агрызацца ўздумала? Не бач ты свету, калі я не бачыла, як твой «ваўкалака» (Шклянку за яго сярдзіты від у вёсцы звалі «ваўкалакам»)... як твой «ваўкалака»...— прагаварыла яна яшчэ раз, але далей не ведала, што казаць, бо не ведала, за што сварацца. Сваю гутарку Домна кончыла тым, што павярнулася задам... і пабегла да Гарбузоў, каб распытаць, што такое здарылася.

Хутка Гарбузы пакаціліся на свой двор; толькі людзі, якія збегліся на гэты лямант, гутарылі паміж сабою, хто больш вінен. Як трэ было і чакаць, большасць вінаваціла Шклянку.

Кончыўся ўвесь гэты кірмаш тым, што стары Сцяпан, выкурыўшы тры люлькі чужога тытуню, сказаў:

— Што нам да іх? Няхай самі разбяруць, хто больш вінен, і пагодзяцца, а нам час разысціся... Толькі дай, Сымон, яшчэ на люльку тытуню.

— Закурвайце, мужчыны! — адазваўся Сымон, выняўшы з-за пазухі вялікі капшук з тытунём.

Усе закурылі і разышліся.

## II

Прайшло некалькі дзён. У воласці адбываліся суды. Сходавая была перапоўнена сялянамі. Адны з іх былі заклікаsuccessfulны павесткамі, а другія прыйшлі проста так, каб пачуць навіны. Хаця яны паміж сабою гутарылі і «ціхенька», але часам падымаўся такі гвалт, што прымушаў высоўваць галаву аднаго з суддзяў [illegible] пакоя, дзе разбіраліся справы, і крычаць на ўсё горла:

— Мужчыны, не крычыце! Бо старшыня вон павыганяе!.. І што за народ! — і галава гэта зноў знікала.

Ад дыму ў сходавай нікога не было відаць, калі ўкаціўся ў яе Гарбуз, трымаючы ў руках нейкую паперу.

— А браточкі мае! Вось накурылі, і бацькі роднага не распазнаў бы,— забурчаў пад нос Гарбуз і стаў праціскацца да тых дзвярэй, якія вялі да пана старшыні.

Дзверы гэтыя ён ведаў добра, бо не раз прыходзілася іх адчыняць. Толькі ён дацінуўся да іх, пацягнуў за клямку, як зараз нехта закрычаў:

— Куды не ў чаргу прэшся! Паклічуць, як будзе пара!..

Але Гарбуз на гэта не звярнуў увагі: ён ведаў, што яго не паклічуць, бо заявы аб яго справе там не было,— ён трымаў яе ў руках.

Пастаяўшы трошкі ля дзвярэй, Гарбуз першым увайшоў у канцылярыю, як толькі адтуль выйшла якаясь баба — уся чырвоная, як рак печаны.

Нічога не кажучы, ён падышоў да стала і палажыў сваю паперу пад самы нос старшыні.

— А ты чаго не ў чаргу? — пачаў быў старшыня, але, спазнаўшы Гарбуза, таго самага Гарбуза, з якім пару дзён назад выпіваў у Залмана, ён дабавіў:

— Хіба такая пільная справа?

— Вельмі пільная, паночку! Калі ласка, каб зараз і разабраць... Буду вельмі дзякаваць, і як кончыцца суд...

Але старшыня не даў яму дагаварыць, а сказаў, каб выйшаў у сходавую і пачакаў, пакуль будуць разглядаць гэту паперу. Гарбуз выйшаў.

Дзеля таго што старшыня быў няграматны, то ён адразу гэту паперу падсунуў да пісара і запытаў:

— Аб чым там?

Пісар глянуў на паперу, раскінуў яе і здзіўлена стаў ківаць плячыма. На паперы нічога не было напісана, але нешта было намалёвана.

— Нічога я тут не разбяру! — сказаў пісар.— Разбірайце яе самі. Гэты чалавек, мусіць, звар'яцеў: падаў не заяву, а чорт ведае што! І чаго толькі ні пачуеш і ні пабачыш ад гэтых паганых мужыкоў! Ох, ох,— і стаў пісаць далей, перадаўшы яе старшыні. Старшыня доўга круціў яе ў руках, нават пад святло пaглядзеў, але каб зразумець што — дык нічога. Усе суддзі папарадку разглядзелі, і ніхто нічога не мог паняць.

— Я восьмы год суддзёю, але яшчэ такой заявы не бачыў,— загаварыў адзін суддзя, які да таго быў п'яны, што сеў у куточку паміж двух сцен, каб толькі, пахіснуўшыся, не паляцець на падлогу.

Вы не дзівіцеся, што суддзя быў п'яны. Тут усе суддзі былі п'янымі, а таксама і старшыня і пісар. Бо су-

### З'ява XI

Мікіта (адзін)

Мікіта *(выбягае на двор).* Куды ж гэта ён дзеўся? Так напалохала, што згубіў лапаць і не ведаю дзе... Вось бяда! Штодзень новыя лапці пляці; гэтак хутка рву, а тут яшчэ губляць пачаў. Не ўдацы!.. *(Пайшоў па вуліцы.)*

### З'ява XII

Яўмень (адзін)

Яўмень *(выйшаў з хаты).* А трасца табе ў бок! Цяпер не вывернешся!.. *(Пад акно.)* Суседка! А суседка! Калі ласка, на хвілінку выйдзі на двор, трасца табе ў бок!

### З'ява XIII

Дар'я — Яўмень

Дар'я. А што маеце казаць, суседзе!

Яўмень. Скажы мне, трасца табе ў бок, чый гэта лапаць?! А?

Дар'я. Скуль я магу ведаць, пане суседзе!

Яўмень. Не! Ты ведаеш, але казаць не хочаш! Вы ўсе ў адну дудку іграеце, трасца вам у бок!

Дар'я. А дзе вы яго ўзялі, пане суседзе?

Яўмень. Дзе ўзяў? Вось тут, на двары!

Дар'я. Мо дзеці чые прынеслі... Я ж кажу...

Яўмень. Дзеці, дзеці! Вось я ёй пакажу — дзеці! Значыцца, і ты за яе,— чорт за чорта! А шчэ хацела, каб дачку аддаў за сына, трасца табе ў бок! А праўды казаць не хочаш!

Дар'я. Ды кіньце вы, суседзе! Людзі нагаварылі, вы і веры далі. *(Пайшла ў хату.)*

### З'ява XIV

Яўмень (адзін)

Яўмень. Я не кіну, пакуль не буду ведаць, чый гэта лапаць. А тады... тады... трасца яму ў бок! *(На вуліцы бегае Мікіта, шукае лапця, размахвае рукамі.)*

*З'ява XV*

Я ў м е н ь — М і к і т а

Я ў м е н ь. Мікіта!

М і к і т а. Чаго?

Я ў м е н ь. Ты не бачыў?

М і к і т а. Каго?

Я ў м е н ь. Хто з двара бег?

М і к і т а. Чаго?

Я ў м е н ь. Хто з двара бег?

М і к і т а. Чаго? *(Плюе.)*

Я ў м е н ь. Цьфу! дурніца, трасца табе ў бок, я пытаю...

М і к і т а. Чаго?

Я ў м е н ь. Ты не бачыў?

М і к і т а. Каго?

Я ў м е н ь. Хто з двара бег?

М і к і т а. Чаго?

Я ў м е н ь. Цьфу! *(Мікіта плюе.)* Трасца табе ў бок! *(Пайшоў.)*

*З'ява XVI*

М і к і т а (адзін)

М і к і т а. І крычыць і плёвае. Ці не адурнеў ён? Нічога не разумею!.. І што гэта будзе? Што я бацьку скажу, дзе ён дзеўся? А мо я яго дома забыўся?.. Не, здаецца, быў; трэба шукаць. *(Пайшоў.)*

*З'ява XVII*

Я ў м е н ь — З о с ь к а — Г р ы п і н а — Д а р' я

Я ў м е н ь. Трасца табе ў бок! Я ж пытаю, хто ў цябе быў? Я пытаю, чый гэта лапаць?..

З о с ь к а. Скуль жа мама ведае, чый гэта лапаць. Можа, свінні прыцягнулі на двор.

Я ў м е н ь. Мо скажаш — вароны прынеслі!.. Не, я ўсё разумею! Далей гэтак не будзе! Я хутка за цябе вазьмуся. *(Суне лапцем жонцы пад нос.)* Кажы хутчэй, чый гэта лапаць?

Грыпіна. Адчапіся! Здзяцінеў, ці што? Знайшоў недзе атопак, ды каб я ведала, чый ён! Скуль жа мне ведаць?

Яўмень. Вось як вазьму аборамі сцягаць, дык будзеце ведаць, трасца вам у бок!

Зоська. Ізноў, тата, пачынаеце? Святы дзень — усе людзі на вуліцы смяяцца будуць!

Яўмень. Няхай смяюцца! Няхай ведаюць, якую Яўмень жонку мае, той Яўмень, які на ўсёй вёсцы лепшым гаспадаром лічыцца.

### *З'ява XVIII*

Яўмень — Зоська — Грыпіна — Дар'я

Дар'я *(увайшоўшы)*. Няўжо ж аб тым!.. Суседзе даражэнькі!

Грыпіна. Вось бачыш, мая міленькая, знайшоў на вуліцы лапаць і хоча, каб я згадала, чый ён... Звар'яцеў, ці што, чалавек?

Яўмень. Не на вуліцы, а на двары, трасца табе ў бок!

Зоська. Кіньце вы яго, тата! Няхай ён згарыць!..

Яўмень. Я не кіну, пакуль не даведаюся, чый ён!..

Дар'я. Кажу, што дзеці тут пясок у ім вазілі, сама бачыла.

Грыпіна. Ну, вось, пясок вазілі...

Яўмень. Каб цябе на могілкі вывезлі! Ты яшчэ будзеш зубы загаворваць! Я цябе пытаю, чый гэта лапаць?

### *З'ява XIX*

Тыя ж — Мікіта

Мікіта *(бегучы)*. А дзядзечка, аддайце лапаць мой, а то тата сварыцца будзе на мяне!

Яўмень. Які лапаць, трасца табе ў бок?

Мікіта. Ды мой! Я ўцякаў ад вас і ўшчаміў абору ў дзверы, дык лапаць адарваўся!..

Я ў м е н ь *(кідае лапаць)*. Цьфу! Трасца табе ў бок! Што ж ты раней не казаў, як у цябе пытаў?

М і к і т а *(падымаючы лапаць)*. А дзякуй вам! А я думаў, што згінуў.

Г р ы п і н а. Ага! Ці я не казала! Каб табе столькі дзён хварэць, колькі ты мне сінякоў дарэмна пасадзіў на плячах пугаю! Бачылі, якая праўда?!.

Д а р ' я. Я ж кажу, суседзе, людзей не слухай!

Г р ы п і н а. Вось як вазьму гэты лапаць, дык усю морду вытаўку. *(Бярэ лапаць.)*

М і к і т а *(не даючы)*. Ой-ёй! Я не дам, я не дам паскудзіць лапця!

Г р ы п і н а *(да Яўменя)*. Прасі прабачэння!

Д а р ' я. Але, суседзе, трэба перапрасіць жонку! Мала што прыйдзецца. Лепш згодна жыць.

Я ў м е н ь. Ну, прабачай, трасца табе ў бок! Я абмыліўся — людзей паслухаў... Болей гэтага не будзе... І вы, суседка, прабачайце: здаецца, з гарачкі сёння і вас трохі аблаяў,— мне здавалася...

Г р ы п і н а. Здавалася!.. Няхай табе не здаецца, дурной авечцы... Здавалася!

Д а р ' я. Ды нічога... Я ж кажу, я прабачаю...

З о с ь к а. Вось, дзякуй табе, Мікітка, што ты прызнаўся да лапця, а невядома, што было б...

М і к і т а. Прызнаўся! Каб да свайго лапця ды не прызнацца! Хто мне сспляце, акром бацькі!

Д а р ' я. А лепш за ўсё — гэта з суседзямі жыць у згодзе. Яны заўсёды праўду скажуць!.. Ці ж не бачаць, што робіцца на адным двары... *(Чуваць спеў хлопцаў і дзяўчат.)*

З о с ь к а. Пэўна, Саўка вяртаецца! А мо б у гэту шчаслівую гадзіну на ўсё мама згадзілася?.. *(Ідзе на вуліцу, за ёй Мікіта.)*

Г р ы п і н а. Ды мы, здаецца, ніколі не сварымся, хіба вось ён...

Я ў м е н ь. Што ён? Што ён, трасца табе ў бок?

Д а р ' я. І дзеткі нашы жывуць у згодзе паміж сабою!.. Мой Саўка колькі разоў хацеў, але не адважыўся ў вас запытацца.

Я ў м е н ь. Ды што там пытацца, калі Зоська згодна...

Г р ы п і н а. Ці ж у нас аб гэтым пытаць? Самі няхай згаворацца!

З о с ь к а. Мамачка! Даражэнькая! Даўно аб гэтым хацела вас запытацца.

Г р ы п і н а. Дачушка! Або я перашкаджаю? Няхай бог дае ўсяго найлепшага...

Д а р ' я *(убок)*. Вось і памагло тое зелле! Мікіта, пазаві ідзі Саўку.

М і к і т а. Вось ён тут ужо! Ідзе з хлопцамі.

З о с ь к а *(з радасцю)*. Саўка!.. Хутчэй, хутчэй!

*З'ява XX*

**Т ы я ж**

Убягае Саўка. Услед за ім хлопцы і дзяўчаты.

С а ў к а *(да Зоські)*. Чаго табе?

З о с ь к а. Не пытай чаго, а вось цалуй руку тату і маме!

С а ў к а. Навошта!

З о с ь к а. Не пытай, а цалуй, калі кажу! Ды Мікіту «дзякуй» скажы, хутчэй — яго лапцю; ён пагадзіў бацькоў, а яны згадзіліся, каб мы жаніліся...

С а ў к а. Няўжо? *(Цалуе руку.)* Дзякую! Большага шчасця я мець не хачу! Дзякую!

Я ў м е н ь. Жаніся з Зоськай, а як мы, старыя, памром, прыары зямлю сваю да нашай ды жывіце з богам, трасца вам у бок!

Ж о н к а. Няхай вас бог благаслаўляе. *(Мікіта стаіць з лапцем і робіць міну.)*

С а ў к а. Але цікава, як Мікітаў лапаць дапамог мне жаніцца з Зоськай?

Д з я ў ч ы н а. Мікіта! Абувай лапаць! Зараз скакаць будзеш. Зоська замуж ідзе за Саўку!

М і к і т а. Замуж! За Саўку! Вой! Вой! Вой!

З о с ь к а. Ну, Мікіта, і ты паскачаш на вяселлі. Бо каб гэта не твой лапаць, мо б шчэ не скора яно было б. *(Смяецца.)*

М і к і т а. А мо гэта не мой лапаць? *(Углядаецца.)*

Д з я ў ч ы н а. Ну, хутчэй абувай, чуеш! Скакаць пойдзеш!

М і к і т а. З табой?

Д з я ў ч ы н а. Ну, а што ж? Са мною! Ох ты, дурніла! Яшчэ падзякуй, што бяру!

М і к і т а. Бярэш?! Буду абувацца. *(Садзіцца і абувае.)*

Я ў м е н ь. Трасца вам у бок, праспявайце што-небудзь ды паскачыце!

Д а р ' я. Але, дзяўчаткі! *(Пяюць вясельную.)*

У с е. А цяпер паскачам!

Д з я ў ч ы н а. Хутчэй, Мікіта!

М і к і т а. Абору завяжу!

Я ў м е н ь. Мо і мы, сваццял тупнем, трасца ім у бок?

Д а р ' я. А чаму ж не!

Х л а п е ц. А я з вамі, цётачка, каб зайздросна не было, што ўсе скачуць.

Г р ы п і н а. Дый даўно я ўжо не скакала.

М і к і т а. А цяпер і я тупну! Вось гэтым лапцем, што Зоську ажаніў! Пойдзем, Аўгіня, ды тупнем, каб чорту моташна стала!

(Усе напяваюць і пачынаюць скакаць.)

*1923*

*З а с л о н а.*

## 1200 ВЁРСТ ПА БЕЛАРУСІ

### (З ПАДАРОЖНАГА БЛАКНОТА)

*11 чэрвеня*

Выехалі [redacted] Мінска каля дзесятай гадзіны раніцы... Неба хмурае. Пырскае дробны дожджык...

— З дажджом выязджаем, павінна пашчасліўіцца ў дарозе,— сказаў селянін, сядаючы разам [redacted] намі ў аўтамабіль. Так. Хутка нам сапраўды пашчаслівілася...

Дождж што раз, то буйней пачынаў сыпаць і злосна хвастаць у вочы. Дарогі пераразаліся глыбокімі лужамі... А не даязджаючы вёрст дзесяць да м. Дукоры, мы пасадзілі аўтамабіль у гразь на толькі што падрапарованай грэблі. Прыйшлося злезці і выцягваць ма-

шыну саматугам... Збіралі камені, карчагі, ламалі голлі сасоніку — і ўсё клалі пад калёсы аўтамабіля, падважваючы яго жэрдкаю... Шафёры лаяліся і на грэблю, і на пагоду...

Аляксандр Грыгоравіч, памагаючы цягнуць з гразі аўтамабіль, не агледзеўся, як поўны камаш набраў вады... Праўду сказаўшы, камаш-то яго быў дзіравы, дзеля чаго мы і не раілі яму лезці ў лужу.

Але — у калектыве сіла. Мы праз гадзіны паўтары выбавілі аўтамабіль і паехалі далей... Прыехалі ў дукорскі валіспалком. Старшыня валіспалкома сядзеў у маленькай канурцы. Перад ім стаяла са слязьмі на вачах кабета, якая прыйшла скардзіцца, што яе нехта пакрыўдзіў.

— Ну, не плач... Раскажы парадкам, у чым справа...

Мы ўвайшлі. Пачалі гаварыць, як у воласці ідзе справа.

Старшыня воласці — яшчэ малады хлапец. Чарнамазы, невысокага росту. Дзелавіта падыходзіць да кожнага пытання.

Цікава, што зараз жа ўсё мястэчка ўведала, што прыехаў усебеларускі стараста Чарвякоў, і наводніла валасны двор. Шмат хто ў руках трымаў заяву...

Прыйшла і дэлегацыя ад кабет. Таксама са скаргамі да таварыша Чарвякова.

— Ён жа наш, дукорскі,— кажа адна з дэлегатак,— ён павінен нам дапамагчы, бо павінен ведаць, як жывецца...

Просяць зямлі, лесу, каб хату ды хлявы падрапараваць [1].

Валасны двор напаўняўся з кожнай хвілінай усё большым і большым лікам сялян, якія, напэўна, па шуму аўтамабіля дагадаліся, што прыехаў старшыня Беларускага ЦВК тав. Чарвякоў... Адны ішлі са скаргамі, а другія проста ішлі парадзіцца, як быць, што рабіць... У руках тав. Чарвякова была кіпа заяў. Ён не пераставаў гаманіць то з адным, то з другім, будучы акружаны грамадою...

Старшыня воласці вельмі непакоіўся аб тых мелія-

---

[1] Падрапараваць — падрамантаваць, пачыніць.

рацыйных работах, якія дукорскае сялянства хоча правесці.

— Пахваліліся, а цяпер нешта аселі. Сялянства баразумее, што карысць вялікая будзе, калі асушыць балоты, але сялянства не можа зразумець, ці будзе ім карысць з гэтага. Патрэбна раней нечым запэўніць сялянства, каб яно ахвотна ўзялося за працу. Апрача таго, патрэбна такая-сякая дапамога дзяржавы — усё лагадней сяляне будуць глядзець на ўладу...

Шмат гаварылі аб неабходнасці асушкі балота, аб экскурсіі дукарчан на балотную станцыю ў Мінску, дзе б яны сваімі ўласнымі вачыма ўбачылі, што і як можа расці на тым балоце, дзе зараз багна і твань, дзе расце толькі мох ды дробны каравлівы рэдзенькі хвойнічак...

Ледзьве вырваліся з воласці, выслухаўшы скаргі і дарадзіўшы некалькі дзесяткам сялян...

А ў Дукарцы нас ужо чакалі... Гэта вёска і ёсць якраз бацькаўшчына Аляксандра Грыгоравіча Чарвякова.

Аляксандр Грыгоравіч толькі паказаў мне тое месца, дзе калісь стаяла яго маленькая, пагорбленая і ўся струхлеўшая хата.

Заехалі да радні Аляксандра Грыгоравіча... Так, проста аўтамабіль аж на вузенькі сялянскі двор закацілі...

— Два гады не быў, Алеська,— спаткала такімі словамі яго цётка,— ці ж не сорамна.— Падыходзяць вітацца. Радасць надзвычайная... А праз адчыненыя вокны ўжо чуваць, як пішчыць сала і кілбаса на скарадзе. Такі ўжо звычай у беларускага селяніна... У хаце чыста, прыбрана. Сцены і печ выбелены вапнаю. Толькі пасля я ўзнаў, што тут праз тыдзень павінна адбыцца вяселле,— сястру дваюрадны брат выдае замуж.

— Ну, а як жа вы,— задае пытанне Аляксандр Грыгоравіч,— з папом будзеце спраўляць вяселле ці без папа?

— Ды што вы, навошта той поп... Цяпер ён не ў модзе — абходзімся без яго...— Маладуха ўсміхаецца...

Старшыня сельсавета Дукаркі, слаўны, як кажуць сяляне, беспартыйны хлапец, прыйшоў пагаманіць, як

быць з перадзелам зямлі... Прыйшло шмат сялян... Толькі к вечару, пасля добрага полудня, мы змаглі сабрацца ў дарогу...

— Калі так будзем ехаць,— гаманіў шафёр Васільеў,— то не скора дахаты прыйдзецца вярнуцца. Шмат вы гутарыце, Аляксандр Грыгоравіч, з сялянамі...

Аўтамабіль затарарохкаў па выкладзенай бярвеннямі вуліцы. Дождж перастаў ісці. Зусім распагодзілася... Калі выязджалі ў поле, адразу кідаліся ў вочы азімыя і яравыя, якія зялёным аксамітам пераліваліся на сонцы пасля дажджу.

Пасевы Чэрвеншчыны былі лепшымі, чым на Міншчыне, дзе ўжо нам прыйшлося праехаць раніцаю. Толькі на высокіх узгорках усходы крыху занялалі, нібы іх прыхваціла спёка.

Уехалі ў Чэрвень. Ніхто не чакаў... Але Чэрвень хутка заварушыўся...

— Як можна, таварыш Чарвякоў,— гаварылі мясцовыя працаўнікі,— два гады ў нас не быў і не выступіце. Мы сход склікаем...

А вечарам у клубе прафсаюзаў усе арганізацыі Чэрвеня сустракалі з музыкаю усебеларускага старасту. Было шмат сялян, якія прыехалі па зямельных справах. Апошнія не прамінулі зараз жа падаць заявы Чарвякову...

Пачаліся прывітанні, прамовы. Кожны з прамоўцаў вітаў госця, але ў канцы сваёй прамовы з'язджаў да аднаго: у Чэрвені мусіць быць округ... Патрыятызм некаторых прамоўцаў амаль што выходзіў за граніцы... Толькі выступленне таварыша Чарвякова, а ён выступіў самым апошнім, крыху супакоіла ўсіх і прымусіла тразвей пазіраць на справу. Таварыш Чарвякоў даказаў, што не там будзе округ, дзе б гэта хацелася тым ці іншым працаўнікам улады ці жыхарству, а там, дзе выгадна для ўсёй дзяржавы ў сэнсе яе эканамічнага росквіту...

Гром апладысментаў прывітаў прамову Чарвякова, які закончыў словамі заклікання да дружнай творчай працы і клічам быць на варце і не забываць братоў-беларусаў, якія стогнуць пад ярмом у Заходняй Беларусі.

Ужо каля часу ночы па запрашэнню настаўнікаў прыйшлося ісці паглядзець куток працаўніка асветы. Сабралася шмат настаўніцтва... Куток працаўніка асветы — уютны куточак, дзе можна сапраўды адпачыць, пачытаць кніжку і газету, а настаўніку, прыехаўшаму ў вёскі, пераначаваць, папіць гарбаты...

— Няма толькі сродкаў як след паставіць тут справу ды купіць літаратуры, самавар, выпісаць газеты,— гаварыў настаўнік Катлінскі, захоплены, як відаць, справай арганізацыі кутка.

Тав. Чарвякоў адпусціў з сродкаў ЦВК 300 рублёў. Радасці настаўнікаў апісваць не прыходзіцца... Ужо пачало развідняць, калі вярнуліся адпачываць. Шафёры спалі моцным сном... Праз дзве-тры гадзіны мы павінны былі рухацца далей... Уся далёкая дарога, па мясцінах зусім не знаёмых, ляжала ўперадзе.

*12 чэрвеня*

Ехалі па шляху, абапал усаджаным старымі развесістымі бярозамі. Направа і налева ад шляху часта сустракаліся вёскі, якія толькі саламянымі стрэхамі выглядалі ў кустоў алешніку. Паводдаль віднеліся новыя будынкі — гэта ідзе пабудова хутароў і пасёлкаў.

Вёскі, вуліцай якіх прыходзілася ехаць, здзіўлялі надзвычайнай сваёй беднасцю. Ветрам разбураныя стрэхі, выбітыя вокны, струхлелыя бярвенні, вырытыя ямы пад падрубамі. А дзеці — абарваныя, гразныя, уцякаюць ва ўсе бакі, хаваюцца ад ушулы, лезуць пад вароты, як толькі пабачаць аўтамабіль... Прыйшлося праязджаць і такія глухія куткі, што нават старыя мужчыны і кабеты ўцякалі ад машыны...

— Ліханька на яе,— гукалі ўслед кабеты,— першы раз бачым гэта страшыдла... Яшчэ дагоніць і раздавіць...

А калі дзе-колечы прыходзілася на хвіліну заставіцца ў такіх глухіх мясцінах, то зараз жа збіралася грамада людзей — яны абступалі аўтамабіль, аглядалі яго з усіх бакоў, краталі пальцамі, баючыся, і пыталі, як гэта сам ідзе...

Затрымаліся на некалькі гадзін у мястэчку Свіслач. Досыць вялікае мястэчка са старымі характэрны-

мі будынкамі. У валіспалкоме адбываўся рамонт, так што нікога не засталі. Зайшлі ў школу — сямёхлетку, дзе якраз выпускны клас трымаў зачоты... Вучні з цікавасцю аглядаюць гасцей. Настаўнікі надзвычайна рады — ніколі не снілі, што ўсебеларускі стараста загляне да іх... Пасля школы Аляксандр Грыгоравіч пабываў у бальніцы. Пацікавіўся, як ідзе справа ў міліцыі... Сабралася мясцовая адміністрацыя, якая інфармавала аб становішчы ў воласці.

Перад ад'ездам мы агледзелі мост, які будуецца праз раку Бярэзіну. Мост — даўжынёю 364 сажні. Пачынаецца з левага боку р. Свіслачы, дзе яна ўпадае ў Бярэзіну. Пабудова моста яшчэ крыху не закончана.

Надзвычайна прыгожая мясціна, вабячы вока мастака куток, дзе канчае свой шлях усім вядомая нам рэчка Свіслач... Мост, нібы той вуж паўзучы, праз Бярэзіну, бліскучыя хвалі Свіслачы на апошнім сваім перавале пры сустрэчы з Бярэзінаю,— усё гэта прымушае не зводзіць доўгі час погляду ад гэтага мастацкага малюнку і переажыць прыемныя хвіліны.

Дарога ад Свіслачы да Бабруйска шмат у якіх месцах занесена сыпучымі пяскамі. Непадалёку ад Бабруйска некалькі дзесяцін узгор'я засыпаны пабялеўшым ад сонца жвірам... А паводдаль ад дарогі відвеюцца цэлыя пясчаныя горы, на якіх расце рэдзенькі хвойнічак.

У Бабруйск заехалі, каб дабыць бензіну. Прыехалі нечакана, пасля трох гадзін... У іспалкоме ні аднаго чалавека, апрача дзяжурнага міліцыянера, які на ўсе пытанні адказваў, што ён у Бабруйску нядаўна, а дзеля гэтага нічога і нікога не ведае... Пакуль шафёры здабывалі бензін, мы пайшлі шукаць сталоўку. Есці хацелася парадкам. Куды ісці?

Аляксандр Грыгоравіч першых двух хлапцоў, якія сядзелі на ганку аднаго дома, запытаў:

— Вы, хлопцы, камсамольцы?

— Так, камсамольцы!..

— Ну, дык вось, будзем знаёмы з вамі, і пакажыце нам сталоўку, каб нам перакусіць... Я — Чарвякоў... Вы чулі такога?

Хлопцы пераглянуліся паміж сабою, падаючы руку Аляксандру Грыгоравічу.

— А гэта,— дабавіў,— рэдактар камсамольскага журнала «Маладняк»... Вы чыталі такі журнал?

— Так, чыталі...

У сталоўцы цесна... Паўгадзіны прыйшлося шукаць месца, тупаючы з кутка ў куток аграмадных пакояў.

Не скончылі абедаць, як ужо ў горадзе даведаліся аб прыездзе тав. Чарвякова.

— Выступіце ў нас... Мы зараз жа сход зробім,— прасілі камсамольцы і мясцовыя працаўнікі. Тав. Чарвякоў абяцаў выступіць, вяртаючыся назад. Сонца ўжо схавалася за земляны вал старой крэпасці, як мы выехалі на шасейны шлях. Трэба было праскочыць да Рагачова, пакуль зусім сцямнее...

Нас спаткалі пры ўездзе ў горад. Гасцініца, дзе нам прыйшлося застанавіцца начаваць, напамінала мне тыя пастаялыя двары, якія так часта апісваюцца ў апавяданнях Чэхава, Горкага... Калі ўзыходзілі на высокі ганак гасцініцы, то з другога боку вуліцы гаспадар другой гасцініцы гукаў:

— Заходзьце сюды, у мяне не горш, чым там...

Хутка прыйшоў старшыня Рагачоўскага іспалкома... Малады, высокі і стройны мужчына.

Пасля інфармацыі аб палажэнні спраў па павеце зайшла гутарка аб беларускай культуры...

Справа ў тым, што ў гэты дзень у Рагачове ішоў першы спектакль беларускай трупы.

Я паспяшаўся ў тэатр.

Народу — бітком набіта. Пасля трэцяга акта «Мешчаніна ў шляхецтве» мне прыйшлося гутарыць з тымі, хто першы раз бачыў беларускую пастаноўку, хто «першы» раз пачуў тую мову, якою гэтак быў напужаны.

— Што ж, Рагачоў не памятае, калі нешта падобнае бачыў. Пастаноўка — няма чаго казаць... Ды і мова нічога страшнага не прадстаўляе. Са сцэны як гавораць, то забываеш, што гэта па-беларуску... Слаўна палучаецца...

— Вось бы нам такую трупу на пастаянна!.. Ёсць на што паглядзець, ёсць і што паслухаць!..

А каля касы ўжо стаяла чарга, каб купіць білеты на заўтрашнюю пастаноўку...

Была поўнач, калі я з двума шафёрамі хадзіў па вуліцах Рагачова. Шукалі сваю гасцініцу... А вуліцы былі перапоўнены гуляючымі... Больш усяго таўпілася грамада каля тэатра, дзе некалькі кварталаў былі асвечаны электрычнасцю.

*13 чэрвеня*

Гэты дзень надзвычайна багаты прыемнымі ўражаннямі.

Мне першы раз прыйшлося пабываць на картоннай фабрыцы.

Загадчык вырабчага аддзела паказаў з пачатку да канца — як з дрэва вырабляецца картон, які ў сырым матэрыяле пасылаецца на другія фабрыкі для вырабу ўсіх гатункаў паперы...

— Вось бы нам машыны падрапараваць, тав. Чарвякоў,— гаварылі рабочыя,— тады справа не так пайшла б... А завод-то мы самі пастараемся пусціць — нічога, справа прыбытная...

Унізе, недалёка ад завода, уецца бліскучай стужкай Днепр. Па хвалях яго плытагоны едуць паціху на Украіну — плыты гоняць, лес сплаўляюць з Беларусі...

— А вось там,— паказвае мне рукою стары рабочы,— за тымі будынкамі, дзе Днепр заварочвае крута ўлева, стаіць замак графіні Боны... Прыгожае месца... Там рэчка Друць упадае ў Днепр, і паміж дзвюма рэчкамі нібы рог такі выходзіць, дзе і пабудаван замак... Вось ад гэтага месца, ад гэтага рогу і горад, як гаворачь, назваўся Рагачоў.

Пасля фабрыкі мы зайшлі наведацца ў дзіцячы дом...

Тым часам у Першамайскім садзе ўжо быў выстраены ўвесь гарнізон. Чырвонаармейцы-пераменнікі захацелі вітаць усебеларускага старасту. У гадзін адзінаццаць Чарвякоў пад гукі музыкі і гучныя воплескі выступіў перад чырвонаармейцамі...

Зноў роўная шасейная дарога. Імчымся так хутка, што ў шапцы няможна сядзець — зрывае вецер. Старшыня Рагачоўскага іспалкома едзе з намі. Ён называе нам кожную вёску, тлумачыць, як жыве там сялян-

ства, як прайшло землебудаўніцтва, чым сялянства незадаволена зараз...

Вось і Доўск...

Наша шасе перасякаецца з шасе, якое ідзе з Магілёва на Кіеў...

Стаяць белыя будынкі пры скрыжаванні шасейных дарог — гэта быўшыя царскія палацы. Зараз у іх змяшчаюцца Дом селяніна, лясніцтва, пошта.

Зайшлі ў лясніцтва. Куча тапароў, піл і падобных прыладаў адразу кінулася ў вочы...

— Скуль гэта ўсё? — пытае Аляксандр Грыгоравіч у ляснічага.

— Сяляне лес сякуць, вось мы і адбіраем. Думаем у павятовы аддзел сацыяльнай забяспекі перадаць — хай раздаюць...

А спакуса для сялянства немалая. У саміх хаты струхлелыя, лесу свайго няма, а лясныя масівы непадалёку — не дзіва, што спакусіцца можна, не дзіва, што сотні піл і тапароў ляжаць у канцылярыі лясніцтва...

Пасля лясніцтва зайшлі ў бальніцу, якая крокаў сто ад быўшых палацаў...

Доктар Наўроцкі... Відаць па ўсяму, што не за страх, а за сумленне працуе ў гэтай пушчы, амаль за сто вёрст ад чыгункі. Скардзіцца, што няма лякарстваў, няма чым перавязкі рабіць. А хворых шмат... Ёсць дні, што да двухсот чалавек прыходзіцца прымаць. Аляксандр Грыгоравіч цікавіцца, якія хваробы больш усяго сустракаюцца...

— Ды шмат чым хварэюць,— кажа доктар,— а большасць — гэта сухоты і пранцы (сіфіліс). Ёсць вёскі, дзе бадай усе жыхары заражаны пранцамі... К таму ж сялянства саромiцца лячыцца ад такой хваробы, запускае і разносіць яе на людзей здаровых... Безумоўна, што хвароба гэта прынесена сюды. Але знайшла добры грунт і хутка ахапіла вялікі працэнт сялянства — больш моладзь хворая...

Абышлі хворых... Доктар Наўроцкі, як відаць, любіць сваю справу, любіць сялянства, умее да яго падысці. Ён не толькі доктар, а і грамадскі дзеяч. Усім цікавіцца, аб усім распытвае... Больш, вядома, клапоціцца аб палажэнні бальніцы, якая нясе дапамогу ўсяму акружнаму сялянству...

А ў воласці Рэхта, некалькі дзесяткаў вёрст ад Доўска, ужо нас чакалі з самай раніцы. З бліжэйшых вёсак сяляне даведаліся, што будзе ехаць усебеларускі стараста Чарвякоў.

Прыйшлі нарочна пабачыць, пагутарыць...

Спаткаў старшыня валіспалкома Дзергачоў...

Зайшлі ў воласць... Большасць вывесак на беларускай мове. Чуваць і гутарка беларуская...

Гэта адзін з глухіх куткоў нашай Савецкай краіны. А каля воласці расце і шырыцца грамада сялян...

Сяляне сталыя — барадачы. Ёсць нават такія сярод іх, што ў турэцкай вайне пабывалі.

Большасць апрануты ў святочныя світкі. Абшытыя чорнай тасёмачкай каўнер, берагі ў падоле і кішэні. Гэта і ёсць характэрная беларуская світка, якую на Міншчыне трудна адшукаць... Толькі часам на сцэне прыходзіцца бачыць. А тут, у Магілёўшчыне, гэта яшчэ жыве.

Кабеты таксама ў вопратках саматканых, рознакаляровых андараках, са старынным убраннем на галаве... Вачэй няможна адарваць: так гэта ўсё выглядае прыгожа. Ніводнай крамнай вопраткі так і не давялося спаткаць.

— У нас усе так ходзяць,— адказвае селянін на маё запытанне,— няма грошай крамнае купляць. Ды сваёй работы тканіну прыемней на целе насіць... Так бацькі і дзяды нашы жылі...

Сабраліся ўсе ў школу. Кабеты каля парога стаяць, а мужчыны паселі на лаўкі... Папрасілі пазвалення закурыць... Дзяды сівабародыя пэхкаюць люлькі, вачэй не зводзяць з усебеларускага старасты... Адзін не сцерпеў і сказаў:

— Вось ужо і ў сне не снілася, што да нас такі госць прыедзе, да нас, у такую глушу... Калісь Міхаіл Іванавіч Калінін тут праязджаў. Да нас тады не заехаў...

Чарвякоў кажа невялічкую прамову. Апавядае, што яму прыйшлося бачыць, праязджаючы беларускія вёскі... Старыя хаты, бедныя сяляне, худая жывёла. Але ёсць настрой, ёсць вера ў свае сілы — а гэта самае галоўнае...

— А як жа мы будзем гутарыць з вамі,— кажа

Чарвякоў,— ці на той мове, на якой я пачаў гаманіць, ці вось так, як цяпер гавару з вамі?..

Грамада адказвае:

— Лепш так, як цяпер кажаце... Яно неяк спрытней для нас, і адказаць ямчэй...

— Значыцца, па-беларуску?..

— Але!.. Ды хто яго ведае, па-якому гэта... Гэта проста па-нашаму,— пачуўся з грамады голас...

Некаторыя сяляне ўсміхнуліся...

— Ты ж наш бацька, таварыш Чарвякоў, парай, што рабіць: хаты ды хлеўчукі пагнілі, як і самі заўважылі, едучы праз нашу вёску, а лесу няма новае будаваць... не дае нам уласць наша... Пойдзем гнілое палена дроў узяць ці галля паламанага — вартаўнікі тапор адбіраюць, ды яшчэ ў суд цягнуць за самаўпраўную парубку лесу... Уся вёска без тапара жыве — лясніцтва пазабірала.

Мне адразу прыпомнілася куча тапароў і піл, якую сапраўды паказваў ляснічы...

— Самі не ведаем што рабіць. Воласць не дапамагае, чакае загаду з павета, а павет і пагэтуль справы не вырашае, як дастаць лесу...

— Зямлі таксама мала. Шмат хто хоча выехаць адгэтуль, а рэшта сялян хоча на хутары выселіцца,— не можна далей так жыць, цяжка...

— А як зямлю думаеце размяркоўваць?

— Падушна!.. Усе хочуць падушна!..

Больш двух гадзін вялася гутарка. Сяляне смела выказвалі сваю крыўду, просячы свайго старасту дапамагчы ім уладкаваць зямельныя справы і справу ■ лесам.

Чарвякоў шмат аб чым растлумачыў сялянам, чаму так хутка дзяржава не можа зрабіць таго, што хоча зрабіць для сялян, чаму не хапае зямлі ў Беларусі, чаму яшчэ лесу не далі сялянству на адбудову...

Сяляне ўважна слухалі, з усім згадзіліся і засталіся пераканыны, што ў хуткім часе жыццё сапраўды палепшыцца...

Пасля сходу мы зайшлі да сялян-яўрэяў. Тут іх ёсць некалькі гаспадарак. Гаспадарку вядуць ужо даўным-даўно і вядуць не горш усіх сялян. Досыць пажылы гаспадар нас прыемна спаткаў і пачаў гутарыць аб сваёй працы — як ён перайшоў да сялянскай гас-

падаркі... Сяляне, якія стаялі тут жа, паддаквалі, што сапраўды яўрэі гаспадараць нядрэнна, у чым яны пераканаліся на працягу многіх дзесяткаў гадоў...

Ужо надыходзіў вечар, і мне прыйшлося патарапіць Аляксандра Грыгоравіча ехаць далей...

Застанавіліся ў Прапойску. Тут спаткалі Чарвякова зусім ужо арганізавана, з чырвонымі сцягамі...

— Ня-хай жы-ве ўсе-бе-ла-рускі ста-рас-та та-варыш Чар-вя-коў! — несліся па вуліцы гучныя выкрыкі камсамольцаў і піянераў, якія стаялі каля воласці ў стройных шэрагах... Начальнік міліцыі падышоў з рапартам, як гэта і водзіцца. Прыйшлося толькі пазнаёміцца са школьнай выстаўкай, дзе вучні, камсамольцы і піянеры, прымусілі разам з імі сфатаграфавацца...

Пад гучнае «ўра» шматлікай грамады мы пакінулі Прапойск.

У чырвоным бляску заходзячага сонца купаліся бярозы і сосны абапал дарогі. Аўтамабіль з шумам нёсся ўперад і ўперад. Шафёр на кожным мосце пацíху запускаў моцнае слаўцо... Здалёку пачалі паказвацца сярод зеляніны будынкі... Гэта віднеўся Чэрыкаў...

Чэрыкаў быў раней павятовым горадам, а зараз толькі воласць... Ужо агартаў змрок сваімі чорнымі скрыдламі гэты ў далёкай глушы Магілёўшчыны гарадок. Як нам мясцовыя запрапанавалі, паехалі за тры вярсты за горад, у школу-камуну.

Спачатку па дарозе з глыбокімі выбоямі, а пасля па звілістай дарозе сярод густога сасновага лесу аўтамабіль прымчаў нас у былы маёнтак Лемень, дзе і змяшчалася вядомая ўсёй акрузе школа-камуна.

Школа-камуна заснавана вядомым палітычным і грамадскім дзеячам Лепяшынскім, які тут жа трагічна скончыў сваё жыццё... Яго забадаў бык, ад якога яму прыйшлося бараніць вучня.

Камунары-леменцы, як іх усе называюць,— рабоча-сялянская моладзь... Усе, як адзін, здаровыя, загарэлыя хлопцы... Дзяўчаты-камунаркі таксама выглядаюць бадзёра і прыгожа... Пытаем, як пайшлі ў камуну... Цікава апавядаюць, як прыйшлося ім разрываць з хатнімі, як трудна было першы год наладзіць

гаспадарку і заваяваць той аўтарытэт, якім яны зараз карыстаюцца, як перад савецкімі і партыйнымі ўстановамі, так і перад усім грамадствам...

— Першы год, калі пайшлі ў камуну,— апавядае камунар, вясковы хлопец,— трымалі такую-сякую сувязь з бацькамі. Прыходзілася іншы раз хлеба ды бульбы захапіць, каб хоць чым-колечы пажывіцца... Ну, а цяпер справу так паставілі, што ў вёску ехаць не трэба,— усё сваё маем... Вось ідзіце паглядзіце.

Аляксандр Грыгоравіч адправіўся з некалькімі камунарамі пазнаёміцца з фермаю, з агародамі, памяшканнем, дзе жылі камунары...

А грамада камунараў і камунарак мяне апанавала, каб я абавязкова сам пачытаў ім свае вершы...

— Мы ўжо ведаем, што вы пішаце вершы, і не выпусцім з камуны, пакуль не пачытаеце. У нас таксама ёсць шмат паэтаў. Нам цікава пазнаёміцца з беларускай паэзіяй. Мы не можам нідзе дастаць беларускай літаратуры. Толькі газеты палучаем — «Савецкую Беларусь» — і тут жа мне падалі дадатак да газеты — «Радавую Рунь», дзе быў надрукаваны мой верш.

Пасля прачытання аднаго маіх вершаў і некалькіх слоў аб беларускай літаратуры, аб напрамку беларускай паэзіі грамада камунараў засталася надзвычайна задаволеная.

— Усё гэта знаёма нам,— казалі хлопцы і дзяўчаты,— у нас так і гавораць, у нас усе гэтыя малюнкі ў жыцці ёсць, якія гэтак паэтычна беларуская літаратура апісвае... Блізкае нам...

А пасля камунаркі папрасілі агледзець самыя прыгожыя мясціны абшараў камуны... Нас, чалавек дзесяць, селі ў лодку і паплылі па глыбокім, наўкола зарошым дрэвамі возеры, якое знаходзілася кроках у дваццаці ад памяшкання... Не даязджаючы да берага возера, я пачуў народныя беларускія спевы. Гэта на высокім ганку камунарскага будынка камунары акружылі Аляксандра Грыгоравіча і пялі яму беларускія песні...

Было зусім цёмна, калі мы вярталіся ў Чэрыкаў. Адзін з камунараў, бойкі, зухаваты хлопец, падсеўшы з намі пад'ехаць у горад, цікава апавядаў нам, як ён і яшчэ два камунары хадзілі пехатою ў Мінск, каб раздабыць сродкі на існаванне камуны...

Вечарам у мясцовым садзе адбыўся мітынг з выпадку прыезду ўсебеларускага старасты. Сабраўся ўвесь Чэрыкаў...

Гарачыя прамовы прывітання Чарвякову, якія гаварыліся мясцовымі працаўнікамі, камсамольцамі і піянерамі, выклікалі буру воплескаў грамады... Апошнім слова ўзяў Чарвякоў. Пры словах яго прамовы аб міжнародным становішчы, што «мы павінны заўсёды ўлічваць тыя абставіны, што на нас ў любы момант можа насунуцца навальніца, і быць да гэтага гатовымі...», сапраўды загрукацеў гром... Чорныя хмары засланлі неба. Пачала раз-пораз асвечваць бліскавіца... Узняўся вецер... Дрэвы шумелі і гнуліся да зямлі... Пачалі падаць буйныя кроплі дажджу... На гэтым мітынг прыйшлося закончыць...

*14 чэрвеня*

З самага рання тав. Чарвякоў пачаў абыходзіць бібліятэку, дзіцячы сад, школы і некаторыя савецкія ўстановы...

Мне прыйшлося ў сямёхгодцы прачытаць лекцыю аб беларускай літаратуры і пазнаёміць з некаторымі беларускімі творамі прыгожага пісьменства. Апрача вучняў і настаўнікаў на лекцыю прыйшлі і камунары-леменцы, якія раней прасілі ў іх чытаць гэту лекцыю.

У школе адбываліся зачоты. Пасля лекцыі паслухаць, як вучні здаюць зачоты, быў запрошан тав. Чарвякоў...

Пачуўся гудок аўтамабіля. Гэта шафёр Васільеў напамінаў, што пара ехаць далей, каб я паклікаў Аляксандра Грыгоравіча.

Стройныя шэрагі... камсамольцаў і піянераў, вучні і настаўнікі праводзілі нас гучным «ура!». Дзве дзяўчынкі-камунаркі падалі ў аўтамабіль два букеты кветак. На чырвоных стужках, якімі былі перавязаны кветкі, было напісана: «Усебеларускаму старасту тав. Чарвякову ад леменцаў!!».

Мы паехалі далей.

*14 чэрвеня*

Было ўжо пасля поўдня, як мы прыехалі ў Крычаў. Яшчэ па дарозе старшыня Клімавіцкага павета,

які сустрэў нас на граніцы Рагачоўскага павета, шмат гаманіў аб гістарычным мінулым Крычава.

Крычаў — напэўна, ад слова «крычаць». Гэта было месца, куды калісьці ссылалі ўсіх п'яніц і разбойнікаў. Наогул, людзей, якія вялі сябе буйна. Нават і зараз сярод ваколічных сялян ходзяць аб тым розныя легенды. Крычаў стаіць на р. Сошы, пад якой, як кажуць легенды, ёсць падзямельныя ходы.

І тут да спаткання былі падрыхтаваны ўжо даўно. Пасля абгледжання мясцовых установ тав. Чарвякоў быў запрошаны ў школу яго імені. Школа — адна з найлепшых памяшканняў гарадка.

Маленькая дзяўчынка, вучаніца гэтай школы, сказала перад тав. Чарвяковым гарачую прывітальную прамову. Пасля адказнай прамовы тав. Чарвякова некаторыя з вучняў дэкламавалі беларускія вершы. Настаўнікі гэтай школы запрасілі на таварыскі полудзень... Шафёр Васільеў пасля полудня ўсю дарогу ўспамінаў «лапундрыкі» — смачныя піражкі, якімі настаўнікі і настаўніцы нас патрактавалі...[1]

Выехалі з Крычава пад вечар... З шасейнай дарогі нам прыйшлося павярнуць на прасёлачную, якая і вяла ў Клімавічы.

Ужо першая вёска гэтага далёкага і глухога кутка Беларусі кінулася ў вочы сваёй старадаўнасцю, як у стылі пабудовы хат, так і адзенні сялянства. Вось тут дык сапраўды непадробленая, не сапсутая сучаснай модай беларуская вопратка.

Усе кабеты, як старыя, так і маладыя, у самадзельных тканінах, колер якіх здалёк кідаецца ў вочы сваёю пестратою.

А мужчыны — дык тыя і летам ходзяць у старамодных беларускіх шапках-лямцоўках.

Прыехалі ў Клімавічы (зараз Калінінскі павет), калі было 9 гадзін вечара.

Клімавічы — гэта быў канечны пункт нашага падарожжа.

Раскіданыя нізенькія будынкі горада, маўклівасць вуліц і наогул цішыня жыцця абвеялі мяне подыхам глухога беларускага лесу...

Мы застанавіліся ў гасцініцы.

---

[1] Патрактавалі — пачаставалі.

Наступіла ноч.

Толькі што арганізаваны духавы аркестр з мясцовых музыкантаў, які іграў у садзе з выпадку прыезду на гастролі якойсьці балерыны, сваімі рэжучымі вуха гукамі, доўга не даваў заснуць.

*15 чэрвеня*

Палову дня пайшло на агляд і знаёмства з мясцовымі ўстановамі: кааператыў, райсаюз, дзіцячы дом і іншыя.

Трэба сказаць, што становішча ў дзіцячых дамах, дзе толькі ні прыходзілася праязджаць, робіць дрэннае ўражанне. Усюды недахват бялізны, не зусім добра агледжаны пакоі, дзе дзеці спяць і праводзяць вольны час...

Так і ў Клімавічах. Выхавацелі скардзяцца, што няма таго, няма гэтага. Ім позна адпускаюць грошы на пакупку прадуктаў. Сярод дзяцей ёсць хворыя і нават заразнымі хваробамі, але чамусьці ўсе разам спяць, палуднуюць і гуляюць... Няма ізалятара, няма прыёмнага пакоя... Няма, мусіць, месца і ў мясцовай бальніцы, дзе б можна было лячыць гэтых беспрытульных дзяцей.

У гадзіну дня тав. Чарвякоў рабіў даклад аб XIII з'ездзе Кампартыі на сходзе мясцовай камуністычнай арганізацыі. Ужо раней даведаліся амаль усе сакратары вольных ячэек і прыехалі паслухаць даклад. Даклад і адказы на запытанні занялі тры гадзіны.

З вялікай цікавасцю ўсе слухалі і пасля задавалі сур'ёзныя пытанні. Арганізацыя адзінадушна ўхваліла тую лінію, якую вёў і намеціў весці далей Цэнтральны Камітэт партыі.

— Пры такім усебаковым падходзе нашага ЦК да кожнага пытання,— казалі многія з партыйцаў пасля даклада,— мы цвёрда верым, што пабядзім, што зможам зрабіць усё тое, чаго дабіваемся. Зараз нам не страшны ўсе тыя няўвязкі, якія часам здараюцца ў нашай рабоце і сярод сялянства. Калі толькі ўмела ажыццявіць тое, што паставіў XIII з'езд партыі, то мы не толькі што заваюем наша сялянства, а мы значна палепшым яго дабрабыт — а гэта будзе мець вялікае

значэнне і для далейшай нашай работы па адбудаванню сельскай гаспадаркі...

Так. Мясцовыя працаўнікі, асабліва ж партыйцы, якія працуюць на вёсках, якія непасрэдна праводзяць сярод сялянства ўсе партыйныя пастановы, непакояцца аб сялянстве не за страх, а за сумленне.

У гэты самы дзень нам прыйшлося пабываць у мясцовай бальніцы. Хворых шмат. Хваробы ўсе тыя самыя, аб якіх прыходзілася пісаць раней. Усе палаты заняты выключна сялянамі...

Доктар скардзіцца, што няма лякарства, няма чым рабіць перавязкі... Няма грошай, каб можна было што набыць...

— Не ведаем, як будзе зараз,— кажа доктар,— калі цэнтрам нашым стаў Мінск... Раней Гомель крыху апякоўваўся... А вось цяпер, ад Гомеля як адышлі, а з Мінскам пакуль што не звязаліся, трохі крута прыходзіцца... Спадзяёмся, што Мінск паможа нам справу паставіць як след,— гэта адзіная ў нашым вокрузе бальніца, якая абслугоўвае працоўнае сялянства...

Праводзячы, загадчык прасіў адпусціць крэдыты з мясцовага бюджэту, каб не апынуцца зусім без лякарства...

Вечарам у садзе адбыўся мітынг. Сабралася тысячная грамада. Адчыніў мітынг старшыня павятовага выканаўчага камітэта тав. Кандраль...

Выступіў вітаць усебеларускага старасту маленькі хлопчык-піянер. Ён, на здзіў усёй грамадзе, вітаў Чарвякова на прыгожай беларускай мове.

— Заўсёды гатовы! — закончыў ён сваім піянерскім лозунгам пад гарачыя воплескі грамады.

Пасля пачалі вітаць ад рабочых арганізацый. Прывітанні гаварылі на ўсіх мясцовых мовах: беларускай, яўрэйскай, польскай і рускай.

Калі адным з прамоўцаў было абмалёвана цяжкае становішча сялян і рабочых у Заходняй Беларусі, пачаліся прамовы з пратэстам і абурэннем супраць панскіх здзекаў і гвалтаў над непавіннымі працоўнымі беларускімі сялянамі.

Выйшла так, што на мітынгу, які сабраўся вітаць прыехаўшага ўсебеларускага старасту, вынесена была рэзалюцыя пратэстаў супраць гвалтоўнай палітыкі панскай Польшчы.

Пачалі разыходзіцца пасля дванаццатай гадзіны ночы...

Гукі аркестра яшчэ доўга парушалі цішу горада, які сёння быў повен парыву новага для яго бадзёрарухавага жыцця.

*16 чэрвеня*

Нас чакалі клімавіцкія піянеры. З 10 гадзін раніцы яны стаялі, выстраяныя ў шэрагі каля свайго клуба.

Трэба сказаць, што як у Калінінскім павеце, так і ва ўсіх тых паветах, праз якія прыходзілася праязджаць, піянерскі рух значна вялікі і папулярны сярод мясцовага жыхарства. Піянеры арганізаваны ў атрады не толькі па гарадах, але нават па валасцях і па вёсках. Яны вядуць заняткі па навучанню строю, маюць свае клубы, маленькія бібліятэкі, збіраюцца штовечар для працы і гутарак.

Так і ў Клімавічах. У атрадзе больш чым 80 чалавек. Усе як адзін малышы, але рухавыя, бадзёрыя, смелыя. І гэта не дзеці мясцовых рабочых, прафсаюзных. Гэта, як мне перадавалі, пакуль што толькі «дзеці вуліцы», як іх абзываюць. Дзеці прафсаюзнікаў яшчэ толькі намерваюцца арганізавацца. А гэтыя «дзеці вуліцы» ўжо арганізаваны, ды яшчэ як!..

— Штодня збіраемся вось у гэты клуб,— рапартуе дзесяцігадовы піянер,— абучаемся строю, гімнастыцы, вучымся чытаць і пісаць, а хто ўжо ўмее, той чытае кніжкі, газеты. Вось бяда: грошай няма. Няма за што купіць кракет — а стоіць усяго чатыры рублі. Нам усе ідуць насустрач, але дапамагаюць вельмі рэдка... Паглядзіце наш клуб.

Адзін пакойчык прыбраны і выклеены партрэтамі самімі піянерамі... Бібліятэка зусім бедная.

— Але нічога,— кажа другі піянер,— вось хутка ў экскурсію па павету. Па вёсках больш 500 піянераў, якія не горш нас арганізаваны ў атрады... Пойдзем выведаць свой павет і арганізаваць дзяцей сялянскіх...

І вочы заіскрыліся ва ўсіх піянераў. Яны жывуць тым, што іх чакае...

Пасля піянераў мне прыйшлося пагутарыць аб беларускай літаратуры з камсамольцамі.

Выехалі з Клімавіч у 6 з палавінай гадзін пасля паўдня...

Быў якраз святочны дзень — сёмуха. Праязджаючы праз вёскі, можна было наглядаць за ўсёю іх прыгажосцю. Асабліва кідаліся ў вочы рознакаляровыя вопраткі дзяўчат, ад якіх пястрэла вуліца. Не з меншаю цікавасцю аглядалі мы іх убранне, чым яны машыну, на якой мы ехалі...

Пачала наплываць чорная хмара ў поўдня. Усхадзіўся вецер. Не даязджаючы да Крычава, гэтакі паліў дождж, што прымушаны былі на нейкі час супыніцца і перачакаць.

Мы хацелі ўзяць напрамак з Крычава на Мсціслаў, Горкі. Але размытая дажджом дарога прымусіла ехаць па шасейнай дарозе на Доўск, а з Доўска павярнуць на Магілёў.

Дождж перастаў ісці. Мы ўехалі ў такую паласу, што на шасе ні каплі не было дажджу. Сонца яскрава пачало свяціць перад захадам.

Не даязджаючы вёрст 30 да Доўска, мы сутрымаліся ў лесе, дзе пастушкі паслі коней. Вясковыя пастушкі падышлі да машыны і, баючыся, пачалі аглядаць яе з усіх бакоў.

Мы пацікавіліся гутаркай гэтых у пушчы жывучых дзяцей. Загаманілі з імі. Яны пачалі адказваць на нашы пытанні на чыстай беларускай мове.

— Так у вас і ў вёсцы гавораць? — пытаю я.

— А чаму ж не. Так і гавораць. Ну, а той, хто вучыцца, той і лепш умее гаварыць...

З падбітым вокам хлапчук пачаў чытаць літары значка.

— А што такое значыць ЦВК? — пытаем мы.

— ЦэВыКа... цвік! — жвава адказаў адзін з хлапцоў... Мы засмяяліся.

— Не цвік,— паправіў другі,— а ВЦЫК...

— А што такое БССР?

— Беларуская Савецкая Рэспубліка...

З гутаркі мы даведаліся, што некаторыя з іх ходзяць у школу і ім гэтыя словы настаўнік тлумачыў...

Паехалі далей.

У Доўску нас агарнуў змрок вечара.

Павярнулі на Магілёў і панесліся ваўсю... Па асвечанай фанарамі дарозе перад аўтамабілем раз-пораз перабягалі зайцы.

— Будзе няшчасце! — гаманіў шафёр, паварочваючыся з усмешкай да нас...

Так яно і выйшла: бяды не мінавалі.

Не даязджаючы вёрст дваццаць да Магілёва, пачалі лопаць шыны і камеры. Ды такое на іх ліха найшло, што не паспеем з'ехаць з месца, толькі затарарахкае машына, як шына або камера лопаецца...

Так некалькі гадзін на адным месцы і прастаялі...

Наўкола стаіць маўклівы лес...

Толькі недзе далёка-далёка чуваць спеў начлежнікаў, ды якаясьці начная птушка залапоча крылламі па голлях сасонніку...

— Ну, можна сказаць, што новы дзень пачынаем... Святлее на ўсходзе,— сказаў шафёр, рапаруючы камеру...

*17 чэрвеня*

Уехалі ў Магілёў чуць золак. Горад яшчэ спаў. І тут жа камсамолец, які ішоў з клуба, дапамог нам адшукаць гасцініцу...

А раніцаю ўвесь горад ужо ведаў аб прыездзе ўсебеларускага старасты.

З'явіліся афішы. У адной пісалася аб экстранным пасяджэнні гарсавета з прычыны прыезда тав. Чарвякова, а ў другой паведамлялася, што вечарам будзе прачытана лекцыя аб беларускай літаратуры...

Днём пазнаёміліся з пастаноўкаю працы ў педагагічным і індустрыяльным тэхнікумах.

Вельмі добрае памяшканне, нічога сабе абстаўленыя лабараторыі і кабінеты. Толькі патрэбен грунтоўны рамонт будынка, які застаўся ад быўшай семінарыі. Вучні-педтэхнікумаўцы — сяляне і рабочыя. Шмат хто жыве тут жа ў абшчажыцці — не маюць куды ехаць і на канікулы.

Вучні цікавіліся, як справа беларусазнаўства ў Мінскім педтэхнікуме.

У нас няма падручнікаў, няма літаратуры — вось на што скардзіліся.

А вечарам пасля пасяджэння гарсавета мне прыйшлося сказаць у педтэхнікуме некалькі слоў аб беларускай навейшай літаратуры.

У іх быў гэты вечар, ахвяраваны памяці Пушкіна.

Чыталі даклады, творы Пушкіна. Ставілі сцэнкі п'ес... Выступаў хор педтэхнікума са спевамі — творы Пушкіна, паложаныя на музыку.

— Што ж,— казалі слухачы,— гэта ўсё старое, усім вядомае... Вось бы вы па-беларуску што-небудзь прачыталі... У нас гурток беларускі ў 120 чалавек, і, наогул, усе дужа гэтым цікавяцца.

Прыйшлося прачытаць.

А ноччу, калі слухачы праводзілі дахаты, яны апавядалі мне аб гістарычных помніках Магілёва, гаварылі шмат аб Машакоўцы — месцы, дзе была магіла Машэкі... Гаварылі і аб тым надзвычайна прыемным уражанні, якое пакінуў Беларускі тэатр сваімі пастаноўкамі.

Было цёмна. Толькі Днепр бліскучай істужкай віўся ў нізіне і мілагучна пляскаўся ў берагі...

*1924*

## ЗМЕСТ



### ВЕРШЫ

## ПАЭМЫ

## АПАВЯДАННІ, П'ЕСА, НАРЫС

Чарот М.

Ч-21 Выбранае: [Для сярэд. і ст. школ. узросту/Прадм. і ўклад. У. Гніламёдава].— Мн.: Юнацтва, 1982.— 222 с., 1 л. партр.— (Школ. б-ка).

У пер.: 40 к.

У зборнік увайшлі вершы, апавяданні, нарыс «1200 вёрст па Беларусі» і паэмы «Босыя на вогнішчы», «Ленін».

Ч $\frac{4803010200-066}{М 307(05)-82}$ 17—82

ББК 84 Бел7
Бел2

Школьная библиотека

Михась Чарот
(Михаил Семенович Куделька)
ИЗБРАННОЕ

*Для среднего и старшего школьного возраста*

Минск, издательство «Юнацтва»

На белорусском языке

Рэдактар М. А. Зелянкова. Мастак А. В. Александровіч. Мастацкі рэдактар Я. П. Зельская. Тэхнічны рэдактар Г. Ф. Дуброўская. Карэктар А. К. Юшына.

ІБ № 14

Здадзена ў набор 25.09.81. Падп. да друку 16.04.82. АТ 04212. Фармат 84×108 1/32. Папера друк. № 3. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 11,76. Ум. фарб.-адб. 12,06. Ул.-выд. арк. 11,17. Тыраж 36 000 экз. Зак. 2097. Цана 40 к.

Выдавецтва «Юнацтва» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскае вытворчае паліграфічнае аб'яднанне імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

**У выдавецтве «Юнацтва»**
**па серыі «Школьная бібліятэка»**
**ў 1982 годзе выходзяць**

---

НА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

*Колас Я.*
НА РОСТАНЯХ

ТАРАС НА ПАРНАСЕ.
ЭНЕІДА

НА РУСКАЙ МОВЕ

*Бондарев Ю.*
ГОРЯЧИЙ СНЕГ

*Твардовский А.*
СТИХОТВОРЕНИЯ И ПОЭМЫ

*Фонвизин Д.*
ПЬЕСЫ

*Фурманов Д.*
ЧАПАЕВ

*Чехов А.*
ИЗБРАННОЕ

10 к.

ШКОЛЬНАЯ  БІБЛІЯТЭКА

Ад той роспачна-радаснай
Незабыўнай давеку вясны,
Калі ў сэрцах бурліў
крыгалом,
Вось каторы ўжо год
У мае неспакойныя,
У мае несалодкія сны
Прыходзіць начамі
Пясняр пралетарскі Чарот.

Н. Гілевіч



МІНСК «ЮНАЦТВА» 1982